№ 39 (248) 24 верасьня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

# БУЛЬДОЗЭРЫ Ў КУРАПАТАХ

## Менская кальцавая дарога пойдзе па магілах.

Старонка 2.

ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63125

# Сто дзён Лукашэнку

**Не прынята крытыкаваць нова-абранага кіраўніка дзяржавы ў першыя сто дзён ягонага мандату. Яму даюць ажыцьцявіць свае задумы ў спакойнай абстаноўцы.**

Але Лукашэнку?.. Пасьля сьцяга, пасьля Ганчара, пасьля пагоні за маскоўскім тронам? Апазыцыі сама ідэя замірэньня здаецца блюзьнерствам: каб яму тых ста дзён не паражыць...

Беларускае грамадзтва пастаўленае перад неабходнасьцю вызначыцца "як жыць з Лукашэнкам". У Лукашэнкі ўлада. Аднак не маральны аўтарытэт. Пытаньне "як жыць з Лукашэнкам" для многіх гучыць усё адно што "як жыць з хваробай". Неяк трэба, але як?

Аўтарытарныя рэжымы звычайна мяняюцца ад жорсткіх да ўсё больш лібэральных, таму першыя тры месяцы кіраваньня дадуць істотныя адказы на істотныя пытаньні. Як улады будуць душыць грамадзянскую супольнасьць, у тым ліку прафсаюзы і прэсу? Якая ступень эканамічнай свабоды будзе дадзеная суб'ектам гаспадараньня і ў якой меры ўрад мае адстойваць інтарэсы беларускага капіталу і маёмасьці перад расейскімі? Ці адрозьнівае новы ўрад беларускія эканамічныя інтарэсы ад расейскіх? Ці наважаны прыслухоўвацца да Эўропы і Амэрыкі? Ці зьбіраецца далей трымаць мову і культуру на аркане? Ці хопіць сьмеласьці прызнаць справы аб палітычных забойствах і пакараць вінаватых?

У другі ж дзень мандату ня выйшлі *Свободные Новости*. У Крупках за палітыку звольнілі настаўніка, у Маладэчне — аптэкарку. У Курапаты прыбылі бульдозэры.

Варта было б прытрымацца правіла "ста дзён". Вось толькі як?

**Андрэй Дынько**

### Навіна
## Служыць будзем год

Праект закону "Аб вайсковым абавязку" ўжо прадстаўлены на разгляд ва ўрад. Паводле праекту, асобы без вышэйшай адукацыі ў памежных і ўнутраных войсках будуць служыць 18 месяцаў, а ў іншых войсках - год. Тэрмін службы выпускніка ВНУ ў любых войсках складзе 9 месяцаў. Будуць прызывацца й выпускнікі вайсковых катэдраў ВНУ, чаго раней не было. Служыць ім паўгоду.

**Б.Т.**



AP

## Заўтра — вайна, якая нас не зачэпіць

Старонка 5.



### Расея—Татарстан
## Барацьба зь нярускімі літарамі

**Дэпутаты фракцыі "Адзінства" ў Думе Расеі падрыхтавалі дапаўненьне да закону "Аб мовах народаў Расейскае Фэдэрацыі", што прымусіць гэтыя самыя народы карыстацца пісьмом, створаным на аснове кірыліцы, бо "іншыя формы пісьмовасьці пагражаюць бясьпецы краіны". Адбылося гэта акурат, калі пачаў пераходзіць на лацінку Татарстан.**

У 1997 г. Усясьветны кангрэс татараў пастанавіў вярнуцца да лацінкі, а Дзяржаўная рада Татарстану ў 1999 г. прыняла адпаведны закон. Пераход меркавалася ажыцьцявіць зь верасьня 2001 г. да верасьня 2011 г.

Мяняць літары булгара-татарам ужо даводзілася. Першапачатковую рунічную пісьмовасьць у XI ст. замяніла арабская абэцэда, якая была ў 1927 г. зьмененая на лацінічны *яналіф* (у перакладзе з татарскае "новая азбука"). Пераход на кірыліцу ў 1939 г. ажыцьцявіўся "за адну ноч" — школярам проста загадалі рабіць хатняе заданьне на кірыліцы. Але кірыліца не перадае цэлага шэрагу ўласьцівых татарскай гаворцы гукаў. Таму творчая інтэлігенцыя, перадусім літаратары, заўжды бэсьцілі кірылічную графіку, а татарская эміграцыя за межамі Расеі ніколі не пакідала яналіфу.

У апошнія гады на карысьць лацінкі загучалі й галасы адмыслоўцаў, якія займаюцца татарызацыяй кампутарных праграмаў. Яны кажуць, што пераход на лацінку спросьціць татаршчыне выхад у глябальныя інфармацыйныя сеткі, дазволіць абыходзіцца без канвэртацыі шрыфту.

У лацінцы татары бачаць знак належнасьці сваёй нацыі да сям'і эўрапейскіх народаў.

Але невядома, ці адваююць татары права карыстацца ўпадабаным альфабэтам, бо ў сваёй краіне яны складаюць прыкладна 50% насельніцтва, расейцы ж — каля 42%. Па выніках сацыялягічных дасьледаваньняў толькі 64,4% татараў лічаць роднай мовай татарскую (у Казані — 38,5%), 6,3% зусім ня ведаюць роднае мовы, 43% ведаюць адно гутарковую і толькі 49,2% валодаюць мовай дасканала. Толькі 9,9% татараў хочуць, каб іхныя дзеткі вучыліся выключна па-татарску.

Прапанова, зробленая ўрадавай фракцыяй, паказвае, што Масква не зьбіраецца адмаўляцца ад культурнага дыктату над суседнімі народамі. У Крамлі гэта лічаць самым надзейным спосабам панаваньня. Імпэрыя застаецца імпэрыяй.

**Сяргей Радштэйн**

## "Наша Ніва", "Arche" і "Цмокі" ў Гомелі

29 верасьня а 18-й у канфэрэнц-залі навучальна-мэтадычнага цэнтру прафсаюзаў (вул.Галавацкага, 19, ля гатэлю "Турыст") у Гомелі адбудзецца сустрэча рэдактараў "НН" і "Arche" з чытачамі. Прыедуць Валерка Булгакаў, Андрэй Дынько і Андрэй Скурко, а таксама рок-гурт "Цмокі". Даведкі праз тэл. у Гомелі 78-76-02.

# Нэаказакі
## у краіне Радзівілаў

ДАСЬЕ



**Цяперашнія казакі ў Беларусі спрабуюць давесьці, што казацтва тут ёсьць гістарычны зьявай і мае старадаўнія карані.**

У 1995 г. была зарэгістраваная першая казацкая арганізацыя ў Беларусі — Беларускае казацтва на чале зь Вярхоўным Атаманам Мікалаем Улаховічам. Хадзілі чуткі, што Улаховіч — сваяк славутага атамана Булак-Булаховіча, які ў 1920-м абвесьціў на Палесьсі 2-ю БНР. Але патрыятызм "нашчадка" быў крыху іншага кшталту: Мікалай Улаховіч стаўся сузаснавальнікам газэты *Личность*, што атрымала ад Дзяржкамдруку папярэджаньне "за распальваньне міжрэлігійнай і міжнацыянальнай варожасьці", а зараз па сумяшчальніцтве ўзначальвае Беларускую Патрыятычную Партыю, створаную генэралам Баранкевічам на базе Саюзу Афіцэраў. Улаховіч пасьпяхова спалучаў атаманства з камэрцыйнай дзейнасьцю.

Працяг на старонцы 7.





БАРЦ

# Бульдозэры ў Курапатах

**Пачалося актыўнае пашырэньне Менскай кальцавой дарогі ў раёне Курапатаў. Гарадзкія ўлады вырашылі, што пашырацца яна мусіць ня ў бок гораду (дзе няма ніякіх пабудоваў і камунікацыяў, якія давялося б руйнаваць), а менавіта ў бок масавых пахаваньняў. Бульдозэры ўжо "расчысьцілі" ад магілаў паласу ў 15 м. Праца кіпіць нават у суботу й нядзелю. Працуюць галоўным чынам магілёўскія й бабруйскія рабочыя, шмат хто нават не падазрае, што тут могільнік.**

**Перад тым невядомыя барбары зруйнавалі мэмарыял "Народу Беларусі ад народу ЗША", да якога некалі ўскладалі кветкі Шушкевіч ды Клінтан. Гэты мэмарыял немагчыма разбурыць бяз тэхнікі. А значыць, дзейнічалі не выпадковыя хуліганы.**

**У суботу а 13-й сябры згуртаваньня моладзі "Эўрапейскі шлях" ды сябры КХП-БНФ ладзілі акцыю супраць руйнаваньня нэкропалю. Людзі з малітвамі й сьпевамі ўмацавалі абразы й крыжы на дрэвах над магіламі. Бальшыня рабочых спынілі працу, але адзін зь іх пачаў ганяцца за людзьмі на бульдозэры, ледзьве не раздушыў дзьвюх кабетаў аб камель дрэва, а потым выскачыў з кабіны з манціроўкаю, але быў занадта п'яны, каб каго-небудзь ударыць.**

**Учора а 15-й акцыя паўтарылася са сьпевамі й малітвамі. Сёньня і заўтра ўвечары актывісты зьбіраюцца ставіць у лесе новыя крыжы. Да "Эўрапейскага шляху" маюць далучыцца сябры Маладога Фронту і іншых суполак.**

**Зьнішчаць магілы няможна. Гэтую банальную ісьціну будаўнікі не спасьцігаюць. Магіла для іх чамусьці нічога ня значыць.**

**Сьвятлана Курс**

## Навіны гаспадарскія

# Запалім беларускія

**Як і летась, няма попыту ў Расеі на беларускую бульбу — польская таньнейшая.** Каб ня страціць усходняга рынку, "Белкаапсаюз" мусіць заніжаць цэны. Купляць у людзей бульбу будуць усяго па 85—90 рублёў за кіляграм.

**З продажу ў Беларусі могуць зьнікнуць танныя цыгарэты замежнай вытворчасьці, найперш *L&M, Bond, Magna, "Союз-Аполлон"*.** Урад зьбіраецца часова забараніць увоз у краіну імпартных цыгарэтаў бязь фільтру, а таксама цыгарэтаў зь фільтрам цаной менш за 26 цэнтаў за пачак, каб падтрымаць прадукцыю Гарадзенскай тытунёвай фабрыкі і менскага СП "ТытуньІнвэст". Абмежавальныя квоты, відаць, увядуць і на замежнае піва.

**Прыкладна на 10 даляраў павялічыўся з пачатку верасьня кошт арэнды кватэраў у Менску.** Цяпер зьняць аднапакаёўку можна толькі за 50—70, а двухпакаёўку – за 90—120 даляраў у месяц.

**Крыху менш будуць спаганяць грошай зь людзей творчых прафэсіяў.** Падатковы камітэт вырашыў, што з агульнага гадавога прыбытку, які ўносіцца ў дэклярацыю, могуць вылічвацца 20% ганарараў за літаратурныя творы і кампутарныя праграмы, 30% ганарараў за кіно і фатаграфаваньне, 40% ганарараў за музычныя творы, а таксама творы выяўленчага і прыкладнога мастацтва.

**Сяржук Іваноўскі**

## Шпіёна памілавалі

**Грамадзянін Нямеччыны Крыстофэр Лец, якога вайсковы суд прызнаў шпіёнам, пакінуў нашую краіну рэйсам авіякампаніі "Люфтганза". Лукашэнка памілаваў яго ў дзень сваёй інаўгурацыі.**

## МАЗ прадаюць

**Менскі аўтазавод у хуткім часе можа страціць самастойнасьць, увайшоўшы ў расейскі холдынг "Сібірскі алюміній".** Прадпрыемству патрэбныя інвэстыцыі, трэба абнаўляць тэхналёгію, а само па сабе ва ўмовах канкурэнцыі яно ня выжыве. Патрэба Беларусі ў МАЗах невялікая. Больш як 90% машынаў прадаецца ў Расею. Кіраўнік "Сібірскага алюмінію" Алег Дзерыпаска запатрабаваў, каб беларускія ўлады паскорылі прыватызацыю МАЗу. Некалькі месяцаў таму гэты расейскі алігарх усталяваў кантроль над Яраслаўскім маторным заводам, які пастаўляе беларускаму прадпрыемству рухавікі. Калі дзяржава знойдзе альтэрнатыву яраслаўскаму рухавіку, МАЗ можа захаваць самастойнасьць. Калі ж дойдзе да акцыянаваньня, будуць масавыя скарачэньне работнікаў. Сібіракі не паглядзяць на патрэбу "захаваць працоўныя калектывы".

**Б.Т.**

# Наступ на незалежны друк

На мінулым тыдні адзін з заснавальнікаў газэты *Свободные новости* Сяргей Атрошчанка абвесьціў пра звальненьне калектыву выданьня. Атрошчанка валодае 60% акцыяў газэты, 40% належаць калектыву. Дзяржкамдрук спачатку наклаў забарону на выпуск нумару, але ў пятніцу ўвечары стала вядома, што нумар усё ж выйдзе сёньня.

У Пінску пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу пра абарону гонару, годнасьці й рэпутацыі старшыні Пінскага гарвыканкаму В.Шуста супраць пінскай газэты "Правінцыялка". Карэспандэнт "Правінцыялкі" Аляксей Дзікавіцкі напісаў, быццам Шуст прымушаў падначаленых агітаваць за Лукашэнку й нават пагражаў ім. Справа выглядае настолькі безнадзейнай для газэты, што А.Дзікавіцкі пасьпяшаўся выехаць у Польшчу разам зь сям'ёй. Віктар Ярашук, іншы супрацоўнік "Правінцыялкі" і актывіст Хэльсынскага камітэту, вырашыў пакінуць газэту і забраў з сабою свой лязэрны прынтэр. Ігнацюк узбудзіў супраць Ярашука крымінальную справу — маўляў, той скраў ягоны прынтэр. Во такая роспач у правінцыі.

Па словах прэзыдэнткі Беларускай асацыяцыі журналістаў сп-ні Літвіной, "распрацавана некалькі варыянтаў расправы з газэтамі. Супраць "Пагоні", "Правінцыялкі" й "Вольнага гораду" ўзбуджаныя крымінальныя справы. У "БДГ", "Нашай Свабодзе" й "Народнай волі" вядуцца фінансавыя праверкі. Трэці шлях — узьдзеяньне на заснавальніка, як гэта было з *Свободными новостями*. Дый Міністэрства сувязі зноў падвысіла і так разьдзьмутыя распаўсюдныя тарыфы". Жанна Літвіна мяркуе, што ўратаваць беларускую прэсу можа толькі замежны ціск на беларускі ўрад.

**С.К.**

## Беларусы над Анголай

**У кастрычніку два беларускія экіпажы транспартных самалётаў Іл-76 ад імя расейскай кампаніі "Ростанг" павінны адляцець у Анголу,** дзе ўжо 30 год працягваецца ўзброенае процістаяньне паміж урадавымі войскамі й падразьдзяленьнямі паўстанцаў з групоўкі ЎНІТА. Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў урадавыя войскі маюць патрэбу ў дадатковым умацаваньні сталіцы дзяржавы. Хутка перакінуць вайсковыя падразьдзяленьні можна толькі паветрам. Рызыка відавочная, але лётчыкі, якія сядзяць бяз працы, згаджаюцца на авантуру. Усе яны павінны папярэдне звольніцца з кампаніі "Ростанг" і заключыць асабістыя працоўныя кантракты. То бок у выпадку надзвычайнага здарэньня ні дзяржава, ні кампанія не бяруць на сябе клопату ў справе вяртаньня экіпажу на Радзіму альбо пошуку яго за мяжой. Словам, чалавечы фактар, як ужо было ў выпадку з гомельскім экіпажам, зьбітым тамільскімі экстрэмістамі з групоўкі "Тыгры вызваленьня Таміл Ілама", яўна ня ўлічваецца. Днямі штаб УНІТА абвясьціў, што напярэдадні выбараў у Анголе без усялякіх папярэджаньняў будуць абстрэльвацца вайсковыя зьнішчальнікі СУ і грузавыя транспарты ІЛ. Іншых самалётаў там проста няма.

**Паводле Радыё Свабода**

## Пацярпелыя за Беларусь

"Зубровец" Андрэй Жукаў быў затрыманы краснапольскай міліцыяй цяпер за тое, што падчас перадвыбарчай кампаніі расклейваў партрэты Ганчарыка. У Крупках звольнены з працы сацыяльны пэдагог СШ №1, дапісчык "НН" Андрэй Аляхновіч, які ў часе выбараў вёў агітацыйную працу. Стала беспрацоўнай і загадчыца маладэчанскай аптэкі Нэлі Шлойда, каардынатарка "Незалежнага Назіраньня" ў Маладэчне. 22 верасьня ў Шклове моцна зьбілі рэдактара газэты "Шклоўскія Навіны" Аляксандра Шчарбака. Суд Цэнтральнага раёну Менску даў мільён і 125 тысяч рублёў штрафу актывісту АГП Уладзімеру Раманоўскаму за ўдзел у Дні Волі. Пракуратура Крычаўскага раёну зноў распачала допыты супрацоўнікаў газэты "Вольны горад" Сяргея Няроўнага, Вадзіма Стэфаненкі і Мікалая Маторанкі. На былога кіраўніка Свабоднага прафсаюзу Менскага аўтазаводу Міхаіла Марыніча завялі крымінальную справу па абвінавачаньні ў фінансавых злачынствах. У Магілёве на Віктара Ясюкевіча і Тамару Леўскую, актывістаў ініцыятыўнай групы Уладзімера Ганчарыка, таксама завялі крымінальныя справы – вінавацяць у супраціве міліцыі. Узбуджаная крымінальная справа і супраць Алега Мяцеліцы, каардынатара "Незалежнага Назіраньня" ў Бялынічах, які адбывае 15 начаў адміністрацыйнага пакараньня.

## Дакумэнты

# Апошні шанец ўратаваць сынагогу

Шанцаў на ўратаваньне будынку на Дзімітрава, 3, пра пляны разбурэньня якой "НН" пісала яшчэ два гады таму, застаецца ўсё менш. 2 верасьня Аляксандар Элентух і я пачалі зьбіраць подпісы за вяртаньне будынку (да 1920 г. там была сынагога, пасьля — слынныя мастакоўскія майстэрні) габрэйскай грамадзе Беларусі. Мы склалі зварот да кіраўнікоў трох найбольш аўтарытэтных габрэйскіх арганізацыяў Беларусі (Саюзу габрэйскіх грамадзкіх аб'яднаньняў і грамадаў, Юдзейскага рэлігійнага аб'яднаньня, Аб'яднаньня юдзейскіх рэлігійных грамадаў) з прапановай супольна абмеркаваць пытаньне ўратаваньня будынку. Супольны, адначасовы, рашучы пратэст усіх габрэйскіх арганізацый, зь якімі лічыцца ўрад, застаецца **адзіным** шанцам спыніць разбурэньне помніка. Але пакуль што ўсе зацікаўленыя бакі цягнуць коўдру на сябе, дзейнічаюць бессыстэмна...

Няпраўда, што габрэі заўжды трымаюцца разам. Габрэяў Беларусі засталося ўжо менш за 30 тыс., мо хопіць ім есьці адзін аднога?

Дом на Дзімітрава, 3 — якраз тая кропка, дзе супадаюць габрэйскія і беларускія памяць і інтарэсы. Калі й зараз функцыянэры габрэйскіх арганізацый не забудуцца на свае рознагалосьсі, гэта будзе зьнявагай людзей, якія хочуць, каб старасьвецкі будынак вярнуўся сапраўдным гаспадарам. У Менску юдзеям ня вернуты ніводзін з будынкаў былых сынагогаў. Хто-ніхто з габрэяў наракае на адсутнасьць "Закону аб рэстытуцыі", але ж каталікі вярнулі сабе Чырвоны касьцёл! Зразумела, юдзейскіх вернікаў менш, але мы лічым, што дом у цэнтры гораду патрэбны ўсім габрэям — і рэлігійным, і нерэлігійным. Можна было б зрабіць тамака музэй габрэйскай гісторыі і культуры.

14—17 верасьня ўсе адрасанты атрымалі наш "Зварот", падпісаны дзеячамі габрэйскай і беларускай інтэлігенцыі.

На 22 верасьня сытуацыя не палепшылася: адрасанты не сустрэліся, не прынялі супольных і рашучых захадаў, дом абнесены плотам і разбураецца будаўнікамі. Шмат зь якіх вокнаў вынутыя шыбы, дах амаль зьняты. Пару дзён таму Я.Гутман, прэзыдэнт Сусьветнага згуртаваньня беларускіх габрэяў, атрымаў ліст з камітэту архітэктуры, датаваны 18.09.2001. Там ёсьць спасылка на рашэньне Менгарвыканкаму (12.09.2001, №1203 (п.2) пра распрацоўку дакумэнтацыі "шматкватэрнага дому з падземнай аўтастаянкай, мастацкай галерэяй і памяшканьнямі для працы зь дзецьмі па вул.Дзімітрава, 3".

**Вольф Рубінчык**

Прэзыдэнту Саюзу габрэйскіх грамадзкіх аб'яднаньняў і грамадаў Леаніду Левіну
Прэзыдэнту Юдзейскага рэлігійнага аб'яднаньня ў Беларусі Юр'ю Дорну
Старшыню Рады Аб'яднаньня юдзейскіх рэлігійных грамадаў у Беларусі Эдуарду Парыжу

ЗВАРОТ

Мы, жыхары гораду Менску, зьвяртаемся да кіраўнікоў габрэйскіх арганізацыяў з прапановай супольна абмеркаваць пытаньне аб будынку былой сынагогі на вуліцы Дзімітрава, 3 з тым, каб у далейшым аб'яднаць намаганьні па вяртаньні гэтага будынку габрэйскай грамадзе Беларусі.

*Рубінчык В., асьпірант РІВШ БДУ; Кобец-Філімонава А., пісьменьніца; Рэлес Р., паэт; Варановіч А., сябар Мусульманскага рэлігійнага аб'яднаньня ў Беларусі; Сініла Г., дацэнтка БДУ; Абрамаў Д., выканаўчы дырэктар Юдзейскага рэлігійнага аб'яднаньня ў Беларусі; Казлоў Л., генэральны дырэктар фірмы "Арты-фэкс"; Гурэвіч Л., музыкант, заслужаны артыст Беларусі; Шухман А., артыстка; Лейзераў А., прафэсар БДУ; Харык Д., загадчыца бібліятэкай МАЯК імя Ізі Харыка; Барадулін Р., паэт; Конан У., пісьменьнік; Бушлякоў Ю., лінгвіст; Баршчэўскі Л., пэдагог; Улан Н., журналістка ды іншыя. Усяго 116 подпісаў.*



**На мінулым тыдні невядомы зрэзаў кавалак вушака драўлянай брамы з паглыбленьнем для мэзузы, у доме на рагу Ракаўскай і Вызваленьня. Экскурсіяў да "дому з мэзузай" — адзінай памяткі, сымбалю габрэйскага мінулага Менску — можна болей не вадзіць...**

# Нацыянальны супраціў і духовае Адраджэньне

## *Стратэгія Маладога Фронту пасьля выбараў*

Сёньня, пасьля маштабных фальсыфікацыяў ды татальнага гвалту над грамадзтвам, маладзёвы нацыянальны супраціў ёсьць практычна адзінай сілай, здольнай абараніць і выратаваць краіну. Ніякія тэхналёгіі й намэнклятурныя сувязі, ніякія грошы ня зробяць таго, што даюць *ідэя* і *дух*. За партай і ў транспарце, у тусоўцы й па дарозе ва ўнівэрсытэт, зь сябрамі й міліцыянтамі *акцыямі нацыянальнага супраціву* робіцца бел-чырвона-белы значак на грудзях, гучная беларуская мова, пікет або гульня, патрабаваньне свабоды й справядлівасьці, салідарная ўзаемная падтрымка.

За нацыянальным супраціўам павінна ісьці духовае Адраджэньне. Другім *маладым фронтам* мусяць стаць асьвета, культура, адукацыя, спорт, інфамацыя, музыка, кампутары – усё тое, што цікава сёньняшняй моладзі, праз што маладая нацыя прыходзіць да паўнавартаснага жыцьця. Толькі духовы ўздым, толькі *сутнасна хрысьціянскае абуджэньне* моладзі здольнае пертварыць насельніцтва ў здаровае грамадзтва. *Расейская імпэрыя й рэжым Лукашэнкі ўжо прайгралі: беларуская моладзь ужо адчула родную зямлю пад нагамі й Госпада Бога над сабой.* Моладзь пачала *верыць* і любіць — з гэтым ніякі страх і д'ябальскі гвалт, ніякія нянавісьць і падман ужо нічога зрабіць ня могуць.



IREX-PROMEDIA

Нацыянальны супраціў і духовае Адражэньне будуць толькі мацнець. Сёньняшняя задача Маладога Фронту ў тым, каб лукашэнкаўскай дыктатуры, абыякавасьці й злу сярод студэнтаў, школьнікаў і маладых рабочых проста *не засталося месца*. Ніякае боязі. Ніякае эміграцыі. Ніякае апатыі. Нас больш, мы мацнейшыя — і мы пераможам!

**Павал Севярынец,**
**лідэр Маладога Фронту**

## Польшча

# Вяртаньне левых

**29 млн. польскіх выбаршчыкаў учора абралі 460 дэпутатаў Сэйму і 100 сэнатараў. Апазыцыйны хаўрус Саюзу Лявіцы Дэмакратычнай і Уніі Працы *(SLD-UP)* перамог кіроўную "Салідарнасьць", што вымушаная апошнім часам літаральна змагацца за сваё існаваньне.**

Нават выбітныя асобы, кшталту прэм'ера Ежы Бузка, якіх "Салідарнасьць" выставіла сваімі кандыдатамі, не выратавалі сытуацыі. Заняпад "Салідарнасьці" тлумачыцца замяшанасьцю правых у шэрагу скандалаў. Вянцом усяму сталася справа зь дзіркай у дзяржбюджэце.

У адрозьненьне ад "Салідарнасьці", шырокі хаўрус сацыял-дэмакратычнай арыентацыі *(SLD-UP)* здаецца людзям гарантыяй стабільнасьці, а бізнэс не баіцца яго, бо паказаў сваю здольнасьць і жаданьне праводзіць рэформы. Кіроўныя пасты ў *SLD* часта-густа займаюць колішнія камуністы — як кіраўнік Саюзу Лешак Мільлер. Але для новага пакаленьня камуністычная мінуўшчына некаторых палітыкаў значыць няшмат.

Апазыцыю леваму хаўрусу ў парлямэнце складуць лібэралы кшталту з Грамадзянскай плятформы (апытаньні абяцалі ёй прыкладна 14% галасоў) і аграрнікі зь Сялянскай партыі (каля 12%). Яны ж могуць стаць партнэрамі СЛД па ўрадавай кааліцыі ў выпадку, калі левыя самі ня будуць мець большасьці ў парлямэнце. "Салідарнасьць" і Унія Вольнасьці маюць шанцы патрапіць у Сойм. Сваю ролю можа адыграць і сялянскае аб'яднаньне "Самаабарона", папулярнасьць якога апошнім часам расьце.

У Польшчы, як у большасьці эўрапейскіх краінаў, зьмяняюць адзін аднаго левыя, правыя, сярэднія, ствараюцца блёкі, хаўрусы, але хто б ні прыйшоў да ўлады, пагрозы для дэмакратыі, рынкавай эканомікі і атлянтычнага саюзу не ўзьнікае, і зьнікненьне з палітычнага далягляду нейкае партыі не азначае ўціску свабоды.

**Язапат Змысла**


Лешак Мільлер

# Восем польскіх партыяў: хто за што

Свае партыйныя сьпісы на парлямэнцкіх выбарах у Польшчы зарэгістравалі 8 палітычных партыяў, што прадстаўляюць увесь палітычны спэктар. Парадак разьмяшчэньня партыяў у бюлетэні вызначаўся лёсаваньнем, і жэрабя, здаецца, сапраўды цягнула рука лёсу, настолькі адметным атрымаўся гэты парадак.

Пад першым нумарам — пераможца. Бачачы пэўнасьць сваёй перамогі, **SLD-UP**, чым бліжэй да выбараў, рабіла свае лёзунгі ўсё больш унівэрсальнымі ("дзяржава — справядлівая і танная"), а абяцанкі больш стрыманымі ("паспрабуем дапамагчы ўсім, але гэта нялёгка"). Ранейшыя радыкальныя прапановы — ліквідацыя Сэнату, скарачэньне колькасьці міністэрстваў, спыненьне прыватызацыі некаторых дзяржпрадпрыемстваў, чыстка спэцслужбаў — апошнім часам прыціхлі. Праграма атрымалася без сэнсацыяў — у ЭЗ пойдзем, але на выгадных для нас умовах; сялянам, шахцёрам, настаўнікам дамо дзяржаўную падтрымку; створым умовы для разьвіцьця айчыннага бізнэсу й замежных інвэстыцыяў.

Другі нумар — у **Akcji Wyborczej Solidarność (AWS)**, якая ўжо даўно ня першая й не другая сіла ў краіне. За чатыры гады знаходжаньня пры ўладзе яна адштурхнула ад сябе хаўрусьнікаў — цэнтрысцкую Унію Вольнасьці, развалілася сама — з *AWS* выйшаў цэлы шэраг партыяў і асобных палітыкаў. Яе развалілі ўнутраныя супярэчнасьці паміж імкненьнем ейнага ўраду лібэралізаваць эканоміку і жаданьнем прафсаюзнага лобі забясьпечыць працоўным сацыяльныя гарантыі. Напярэдадні выбараў *AWS* сваёй задачай лічыла "ліквідацыю паталягічных зьяваў у грамадзкім жыцьці, хуткае й пасьпяховае ўступленьне ў ЭЗ, разьвіцьцё нацыянальнай навукі і культуры". Галоўным козырам *AWS* быў "сямейны пакет" — шэраг законапраектаў, скіраваных на ўсебаковую дзяржаўную падтрымку шматдзетных небагатых і беспра[illegible] большая праблема правых у тым, што ім ніхто ня верыць. Лёзунг правых "Іншыя шмат гавораць — мы ж зьмяняем Польшчу".

Трэці нумар — **Унія Вольнасьці (UW)**. У ейных шэрагах — першы некамуністычны прэм'ер Тадэвуш Мазавецкі, "бацька польскіх пераўтварэньняў" Лешак Бальцаровіч, міністар замежных справаў Браніслаў Гэрэмак і г.д. Адзін час *UW* нават ахрысьцілі "партыяй улады". Сьмяротны ўдар па *UW* нанесла зьяўленьне Грамадзянскай плятформы, што адабрала ў Уніі большасьць расчараванага электарату — "чыстых" лібэралаў і маладых прагматыкаў.

Чацьверты — наваствораная партыя **"Самаабарона"**. На пачатку 90-х гэта была прафсаюзная суполка сельскагаспадарчых работнікаў. Аснову яе складаюць фэрмэры, якія пасьля банкруцтва абралі шлях "сялянскага бунту" замест вяртаньня крэдытаў. Іхны правадыр Анджэй Лепэр вядомы тым, што зладзіў колькі гучных блякадаў аўтамагістраляў і пагражаў папрасіць прытулак у Лукашэнкі. Тады ён яшчэ не выдаваў сваіх намераў зрабіць палітычную кар'еру, называючы прэзыдэнта Квасьнеўскага "найвялікшым гультаём краіны", а Лешка Бальцаровіча "эканамічным ідыётам і бандытам". Сёньня Лепэр кажа, што "прыйшоў час разблякаваць Польшчу". Галоўным аргумэнтам, які ён прыводзіць, заклікаючы галасаваць за сябе — "усе астатнія ўжо направіліся". "Самаабарона" супраць уступленьня ў ЭЗ і за ўтрыманьне бедных коштам багатых. Самаабаронаўцы абяцаюць пасьля прыходу да ўлады шмат каго пасадзіць за краты.

Пятая — партыя **"Права і справядлівасьць"**. Назва партыі адначасова зьяўляецца ейным лёзунгам. Яе кіраўнікі — браты-блізьняты Лех і Яраслаў Качыньскія, добра вядомыя з часоў "Салідарнасьці" як "цьвёрда правыя". У партыі высокі рэйтынг — 8%, дзякуючы іміджу "самотнага шэрыфа, барацьбіта з мафіяй і карупцыяй" Леха Качыньскага, які ён набыў за год працы на пасадзе міністра юстыцыі. Галоўны пункт праграмы можна выказаць слыннай фразай "Злодзей павінен сядзець у турме". Партыя выступае таксама супраць эўтаназіі, абортаў, гомасэксуальных шлюбаў і зьніжэньня падаткаў, бо "ня тая сытуацыя". Прапаноўваецца таксама часова аднавіць сьмяротнае пакараньне.

Шостая — **Польская Сялянская Партыя (*PSL*)**. Адзіная клясавая партыя — сялянская. За 10 год пасьля падзеньня ПНР яна змагла захаваць свой электарат на ўзроўні 10—12% галасоў. Польскі палітоляг праф.Унук-Ліпіньскі назваў галоўным парадоксам існаваньня *PSL* тое, што партыя, якая абараняе інтарэсы беднага сялянства, сама зацікаўленая ў захаваньні гэтага слою грамадзтва, безь якога не было б і самой партыі. *PSL* і ейны лідэр Яраслаў Каліноўскі дэкляруюць "блізкасьць да людзкіх справаў", г.зн. таго, што хвалюе людзей у дадзены момант, і кажуць, што ня варта абцяжарваць палякаў новымі клопатамі, кшталту рэформаў. *PSL* гаворыць пра "кантроль дзяржавы над галоўнымі сэктарамі эканомікі", варожа ставіцца да "эканамічнага лібэралізму і філязофіі грамадзкага эгаізму", выступае супраць "безумоўнай адкрытасьці" Польшчы для ЭЗ і патрабуе 18-гадовага мараторыю на продаж польскай зямлі іншаземцам пасьля ўступленьня ў ЭЗ.

Сёмая — **"Грамадзянская Плятформа"** — у апытаньнях набірае прыкладна столькі ж, колькі і *PSL*. Плятформай кіруе трыюмвірат: бізнэсмэн Анджэй Аляхоўскі, які на прэзыдэнцкіх выбарах увосені 2000 г. набраў 18% (другое месца пасьля А.Квасьнеўскага), Дональд Туск, віцэ-маршалак сэнату, дысыдэнт з Уніі Свабоды і Мацей Плажыньскі, маршалак Сэйму, які выйшаў з *AWS*. Яны стварылі Грамадзянскую Плятформу, каб "даць Польшчы шанец". А для гэтага ёй мусяць кіраваць кампэтэнтныя людзі, дзяржава не павінна душыць прыватную ініцыятыву, а даць грамадзянам доступ да адукацыі, гарантаваць бясьпеку і стварыць аднолькавыя магчымасьці для разьвіцьця.

Апошнім нумарам ідзе самы маргінальны грамадзкі рух **"Альтэрнатыва"**, што ўтварыўся ў сакавіку, калі з *AWS* выйшла група радыкальна настроеных дэпутатаў, якія не прымалі лібэральнай палітыкі ўраду Ежы Бузка. "Зьмяні сваю долю — альтэрнатыва ёсьць" — гаворыць іхны лёзунг, над якім бела-чырвоныя стужкі польскага нацыянальнага сьцягу перакрэсьліваюць зорачкі Эўразьвязу. Фармальны лідэр Яніна Краўс, нефармальны — Тамаш Карвоўскі. Яны патрабуюць "спыніць злачынную прыватызацыю", "аддаць пад суд міністра дзяржаўнае маёмасьці", "захаваць усеагульную вайсковую павіннасьць" і, вядома ж, сказаць Эўропе "не". Гэты рух аб'яднаў 47 розных суб'ектаў — пераважна дробных праварадыкальных партыяў, што паасобку ня мелі ніякіх шанцаў трапіць у Сэйм. У рэйтынгах "Альтэрнатыва" набірае ня больш за 1%.

**Сяргей Рак**

## Эстонія

### Вяртаньне экс-камуніста



**Прэзыдэнтам Эстоніі быў абраны 73-гадовы Арнольд Руйтэль.** Ён калісьці ўзначальваў Вярхоўны Савет Эстонскай ССР, стаяў на чале першага парлямэнту незалежнай Эстоніі, двойчы спрабаваў скласьці канкурэнцыю на выбарах 72-гадоваму Ленарту Мэры, які займаў пасаду прэзыдэнта з 1992 г. Новы эстонскі прэзыдэнт — доктар сельскагаспадарчых навук, ён быў рэктарам Сельскагаспадарчай акадэміі. Ленарт Мэры выказаў занепакоенасьць абраньнем экс-камуніста.

**Я.З.**



**Да атакі тэрарыстаў на Амэрыку 11 верасьня першы раман Чака Палагнюка ўспрымаўся ня толькі як брутальны, але і як камічны. Галоўны герой гэтай кнігі пакутуе на бяссоньніцу, галоўным чынам, з-за сваёй працы, якую ён лічыць цынічнай. (Ён разьбірае аўтамабільныя аварыі, каб абараняць інтарэсы аўтамабільных вытворцаў.) Вечарамі герой наведвае групы падтрымкі невылечна хворых. Ён прыкідваецца хворым на рак або хлусіць, што ў яго запаленьне мазгоў. І тут ён разумее, што страта ўсялякай надзеі можа прынесьці пачуцьцё свабоды. Сутыкаючыся сам-насам са сьмерцю, ён лепш адчувае паўнату жыцьця, і да яго вяртаецца сон. І ўсё ідзе добра, пакуль не зьяўляецца Марла Сынгер — сяброўка з групы падтрымкі (якая таксама сымулюе хваробу). Яна паступова ўваходзіць у асабістае жыцьцё героя, бо сустракаецца зь ягоным сябрам, містычным Тайлерам Дэрдэнам. Тайлер — афіцыянт, які марыць зруйнаваць гэты сьвет. Ён — "партызан-тэрарыст у сфэры абслугоўваньня". *Project Mayhem* узяты з Анархічнай Кулінарнай Кнігі. Пачынаецца з дробязей: Тайлер плюе ў суп сваім кліентам, а пасьля болей, болей... І калі аднойчы герой і Тайлер дзеля забаўкі пачынаюць лупцаваць адно аднаго ў мясцовым бары, тут і нараджаецца сакрэтная арганізацыя Байцоўскі клюб. "Першае правіла Байцоўскага клюбу — не гаварыць пра Байцоўскі клюб".**

**І вось ужо незадаволеныя жыцьцём дармаеды бавяць свой вольны час у Байцоўскім клюбе, зьбіваючы адно аднаго на горкі яблык. На наступны дзень яны ідуць на сваю працу зь сінякамі, пабітыя, але з пачуцьцём, што яны хоць на нешта здольныя. Аднак Байцоўскі клюб — толькі першая прыступка вялікага анархічнага пляну Тайлера. Хутка па ўсёй краіне пачынаецца павальны гвалт, апагеем якога аказваецца шызафрэнічная разьвязка, што адбываецца на самым высокім будынку ў сьвеце.**

**А пачынаецца кніга сцэнай канца, сцэнай раздваеньня сьвядомасьці і прароцкае відзежы, якую шмат хто згадаў 11 верасьня.**

Чак Палагнюк

# Байцоўскі

### ПАДРАЗЬДЗЕЛ 1

Тайлер знаходзіць мне працу афіцыянта, а пасьля засоўвае рэвальвэр мне ў рот і кажа: каб зрабіць першы крок да вечнага жыцьця, ты павінен здохнуць. Мы з Тайлерам доўга моцна сябравалі. Людзі заўсёды пытаюцца, ці ведаў я пра Тайлера Дэрдэна.

Рэвальвэр душыць мне нёба. Тайлер кажа: "На самой справе мы не памром".

Мой язык адчувае дзіркі для глушэньня стрэлаў: мы прасьвідравалі іх у рулі. Асноўная прычына шумнасьці стрэлу — выкід газаў. Сама куля толькі крышачку сьвішча, бо ляціць хутка-хутка. Самы просты глушак — прасьвідраваць дзіркі ў рулі, купу дзірак — і ўсё. Гэта дае газам выхад, і тады куля вылятае з хуткасьцю, меншай за хуткасьць гуку.

Калі прасьвідраваць дзірачкі ня так, рэвальвэр адарве табе руку на фіг.

"На самой справе, гэта як бы й ня сьмерць, — кажа Тайлер. — Мы ператворымся ў легенду. Мы ніколі не састарэем".

Я адціскаю языком рулю да шчакі і кажу: "Тайлер, ты хочаш стаць вампірам".

За дзесяць хвілінаў будынку, на якім мы стаім, ня будзе. Бярэш 98-працэнтны канцэнтрат азотнай кіслаты і разводзіш з у тры разы меншай колькасьцю сернай. Рабіць гэта трэба ў халоднай, ледзяной пасудзіне. Потым піпэткай дадаеш гліцэрын, кропельку за кропелькай. Атрымоўваецца нітрагліцэрын. (Я ведаю гэта, бо Тайлер ведае гэта.)

Калі зьмяшаць нітру зь пілавіньнем, атрымаецца крутая плястыкавая бомба. Некаторыя пацаны зьмешваюць нітру з бавоўнай і дадаюць ангельскай солі замест сульфату. Таксама фурычыць. Некаторыя зьмешваюць зь нітрай парафін. У мяне з парафінам ніколі нічога не выходзіла.

Дык вось, на даху *Parker-Morris Building* стаім, Тайлер і я з рэвальвэрам у роце, чуем, як зьвініць шкло. Зазірні за край. Сёньня воблачна, нават на такой вышыні. Гэта самы высокі будынак у сьвеце, і вецер тут заўжды халодны. Тут вельмі ціха, і адчуваеш сябе касьмічнай малпай. Робіш сваю маленькую справу, якой цябе навучылі.

Прыцэлься.

Націсьні на спуск.

Спачатку ты нічога не разумееш, а потым проста паміраеш.

Зырыш за край даху з вышыні стадзевяностапершага паверху. Вуліца ўнізе — як стракаты дыван людзей. Яны стаяць, задраўшы галаву. Шкло зьвініць у акне акурат пад намі. Вылятае шыба, а за ёй — шафа, такая, у якіх дакумэнты трымаюць, здаровая, як чорны халадзільнік. Шафа з шасьцю шуфлядкамі ляціць уздоўж стромы будынку, ляціць, павольна куляецца ў паветры, ляціць, меншаючы і меншаючы, зьнікае ў шчыльным натоўпе людзей.

Недзе там, на адным з гэтых дзевятнаццаці дзясяткаў паверхаў пад намі, касьмічныя малпы з *Mischief Committee of Project Mayhem* крышаць усё, ніштожачы кожны шматок гісторыі.

Старая прыказка "каго любіш, таго і чубіш", у прынцыпе, слушная з абодвух бакоў.

З рэвальвэрам у зубах можна толькі мармытаць.

Хутка пачнуцца нашыя апошнія дзесяць хвілінаў.

З будынку вылятае другая шыба, бліскае шкло, разлятаецца на ўсе бакі, нібы чародка галубоў, а потым *Mischief Committee* высоўвае чорны драўляны стол, ён сьлізгае па падваконьні, перакульваецца і ператвараецца ў магічны аб'ект, згублены сярод натоўпу.

Хмарачосу *Parker-Morris Buil-*



*Талібаў шкада: яны ніколі не жылі ў чалавечых умовах, яны бедныя, многія зь іх нават твару жаночага ня бачылі*

# Сусьветная вайна з тэрарыстамі

## *Амэрыканцы ня маюць шанцаў, а талібы — будучыні*

Аўганістан зноў прыцягнуў да сябе ўсеагульную ўвагу. Каб не паўтарыць памылкі, якую ўжо ня раз рабілі іншыя ворагі Аўганістану, амэрыканцы зыходзяць з таго, што адкрытая вайна не прынясе ім перамогі.

І анiякая перавага ў тэхніцы ці людзкой сіле не дапаможа, бо, напрыклад, са 100 тысячаў жаўнераў савецкага войска, якія стаялі ў Аўганістане, у баях бралі ўдзел толькі 15 тысячаў, а астатнія ахоўвалі дарогі, базы, вузлы сувязі і іншыя аб'екты інфраструктуры.

Асобную ўвагу трэба зьвярнуць на "хаўрусьнікаў" ЗША: Пакістан і Іран сёньня на амэрыканскім баку, але ж у іх актывізуюцца моцныя ісламісцкія партыі, а ў Пакістане таксама значная колькасьць пуштунскага насельніцтва. Тэрарыстычная вайна можа распаўзьціся за межы рэгіёну.

Можна, зразумела, войскаў у горы ня слаць, абмежавацца ракетна-бомбавымі ўдарамі. Але эфэкт будзе нулявы — у Аўганістане няма чаго нішчыць, бо там нічога няма наагул. Так, у 1998 г., помсьцячыся за ўзарваныя бэн Ладэнам пасольствы ЗША ў Танзаніі і Кеніі, амэрыканцы выпусьцілі па Аўганістане 80 ракетаў — толькі ў 6 разоў меней, чым па Сэрбіі. А талібам хоць бы што.

У амэрыканскай энцыкляпэдыі, выдадзенай у XIX ст., ёсьць артыкул Фрыдрыха Энгельса пра Аўганістан, які распачынаецца словамі: "Аўганцы ўжо даўно сталі б вялікім народам, калі б ня іхная любоў да свабоды і нянавісьць да ўсялякай цэнтралізаванай улады". Нават калі амэрыканцы пераможуць і, скажам, скінуць талібскі ўрад, цяжка ўявіць, як яны здолеюць упарадкаваць краіну. Гэта ня Косава, тут і насельніцтва шмат большае, і культура іншая. Аўганцы наўрад ці захочуць засвойваць амэрыканскія дэмакратычныя каштоўнасьці. У гэтым сэнсе Аўганістан прымушае ўспомніць Самалі і няўдалую амэрыканскую апэрацыю там на пачатку эры Клінтана.

Талібаў можна толькі пашкадаваць. Большасьць зь іх — маладзёны, што не памятаюць мірнага жыцьця. Яны ня ведаюць нацыянальных традыцыяў і гісторыі, апроч традыцыяў сваёй вёскі, дый ад іх спрабуюць пазбавіцца, калі тых супярэчаць прымітыўнаму ісламу правадыроў руху. Яны цёмныя нават у параўнаньні з маджагедамі, што ваявалі з СССР і пасьля ўзяцьця Кабулу ў 1992 г. глядзелі з захапленьнем мульцікі зь Міні-Маўсам у холах нечувана панскіх для гэтых вяскоўцаў гатэляў. Талібы ніколі не жылі ў чалавечых умовах, бо савецкая агрэсія выбіла з каляіны жыцьця яшчэ іхных бацькоў. Многія зь іх наагул вырасьлі сіротамі на чужыне. Пасьля — прымітыўнае навучаньне, войска, аўтамат. Усё. Многія зь іх твару жаночага ня бачылі, бо аўганскія жанчыны ходзяць цалкам захутаныя, пакідаючы толькі дзіркі для вачэй.

Дарэчы ў Кур'ане ані слова няма пра абавязак жанчынаў закрываць твар: гэтае "дапаўненьне" давялі да "дасканаласьці" ў Аўганістане. Зь цемрашальствам трэба змагацца любымі сродкамі. Нельга толькі апускацца да ўзроўню цемрашала.

**Сяргей Радштэйн**

# Зь Нью-Ёрку
## Магчымасьці паваяваць



**За мінулы тыдзень, нягледзячы на прытоенае радаснае чаканьне часткі сьвету, Амэрыка не паляцела ў прорву, не пацярпела эканамічнай паразы, ня ляснула. Адзінымі дэфіцытнымі таварамі ў амэрыканскіх крамах застаюцца нацыянальныя штандары, якія цяпер вісяць ледзьве не на кожным доме, упрыгожваюць машыны, курткі, тэчкі, а таксама плякаты "Я ганаруся, што я амэрыканец", "Так, мы пераможам".**

Амэрыканская трагедыя згуртавала амэрыканскі народ. Пагроза помсты, як на маю думку, справядлівай і, спадзяюся, хуткай, гуртуе народ аўганскі.

Што мусіць адбыцца, каб згуртаваліся беларусы?

Зь Беларусі чуваць рознае. Нейкі Кастусь пакідае ў нашаніўскай кнізе "водгукаў і прапановаў" на Інтэрнэце: "Вось вам і Амэрыка. Усё за грахі, а ЗША ў іх упярадзе плянэты ўсёй. Калісьці гэта павінна было здарыцца. Працуе біблійнае "аз воздам". А нашым нацыяналам трэба меней захапляцца гэнай імпэрыяй". Дзе людзям так галовы напякае?

Вось што дзівіць: пры ўсёй спагадзе, спачуваньнях плебейская радасьць: нехта большы ад цябе паваліўся. Значыць, ня толькі ты слабы, і моцныя могуць быць слабымі. Але й мне гэтымі падзеямі ў галаве нешта зварухнула. Прыкладам, у 80-я гады, калі хлапцоў майго веку бралі ў войска, казалі: няхай у маракі, у тры гады, абы не ў Аўганістан. Там ішла вайна, там савецкія войскі на сваіх аўтаматах Калашнікава падтрымлівалі ўрад, а амэрыканская дэмакратыя дапамагала маджагедам. Прыкладна гэтак тады яно гучала. Сёньня атрымоўваецца, што тыя самыя маджагеды пагроза і Амэрыцы, і ўсяму неісламскаму сьвету, і няправільным мусульманам. Дык хто ж тады, дваццаць гадоў таму, меў рацыю?!

Я не патрапіў у Аўганістан. Мяне і яшчэ дзясятак гэткіх жа спалоханых, толькі з-пад мам, хлапцоў, кінулі ў асобны пакой, куды зьбіралі кандыдатаў для адпраўкі ў Сырыю. У Сырыі Савецкі Саюз вайны ня вёў. Аднак сталася так, што малады лейтэнанцік, наш вэрбоўшчык, загуляў і трапіў на гаўптвахту, і нас ізноў раскідалі па камандах. Два гады праслужыў я пад Масквой, у супрацьпаветранай абароне, якая запомнілася адным: гэта мы прапусьцілі самалёцік на Красную плошчу.

Цяпер у мяне зноў ёсьць магчымасьць апынуцца ў Аўганістане, ужо з амэрыканскага боку, але супраць тых самых ворагаў. Небагата зьмянілася?..

**Лявон Юрэвіч**

### Made in China

**Тэкстыльныя фабрыкі ў Кітаі працуюць 24 гадзіны ў дзень, каб задаволіць патрэбу на сьцягі ў ЗША,** дзеля чаго нават спынілі шыць уласныя штандары на ўжо блізкае кітайскае нацыянальнае сьвята. Сьцяг сярэдняга памеру абыходзіцца амэрыканцам прыблізна ў $1.

# Навіны за тыдзень
## Пяцігодка ўстрыманьня



**У мэтах змаганьня са СНІДам, улады Свазыленду забаранілі маладым грамадзянкам на працягу пяці год жыць полавым жыцьцём.** Дзяўчаты, старэйшыя за 19 гадоў, а таксама тыя, хто на дадзены момант ужо меў сэксуальныя зносіны, павінны насіць на вопратцы адмысловыя чорна-чырвоныя шарсьцяныя кутасікі, тады як на вопратцы нявінніц яны мусяць быць жоўта-блакітнымі. Апошнім на працягу 5 год забаронена ня толькі губляць нявіннасьць, але й насіць штаны ды паціскаць рукі мужчынам. А тым, хто паспрабуе спакусіць цнатлівіцу, пагражае штраф, роўны цане адной каровы (крыху болей за 150 даляраў). Зь мільёна свазыленцаў больш за 50 тыс. ужо памерлі ад хваробаў, выкліканых ВІЧ.

## Маркес з малатка

**Ніхто не купіў на аўкцыёне ў Барсэлёне вёрсткі раману Маркеса "Сто год адзіноты" з 1026 папраўкамі аўтара** (стартавая цана — паўмільёна даляраў), якую ЮНЭСКА абвясьціла помнікам літаратуры. Урады Калюмбіі і Гішпаніі адмовіліся яе купіць, спасылаўшыся на адсутнасьць грошай, а амэрыканскія ўнівэрсытэты і антыквары ня бралі ўдзелу ў аўкцыёне з-за пагаршэньня эканамічнага становішча пасьля тэрактаў 11 верасьня. Іншыя рэчы Маркеса, выстаўленыя на тым самым аўкцыёне, разышліся без праблемаў.

**С.Р.**

# клюб

*ding* за дзевяць хвілінаў ня стане. Бярэш дастатковую колькасьць выбуховага жэле і абкладаеш ім нясучую апору. І ўсё — ніякі будынак на сьвеце ня выстаіць. Трэба толькі добра ўмяць жэле й пабявязаць апору мяхамі зь пяском, каб выбух быў скіраваны на апорную калёну, а не на паркоўку вакол яе.

Ні ў воднай гістарычнай кнізе такога ня знойдзеш.

Тры спосабы вырабу напалму. Першы: зьмешваеш роўныя часткі бэнзыну і замарожанага канцэнтрату апэльсынавага соку. Другі: зьмешваеш пароўну бэнзыну і колу-лайт. Трэці: разводзіш у бэнзыне кашэчае лайно да атрыманьня густой сумесі.

Запытайцеся ў мяне, я магу расказаць таксама, як выраблялць нэрвова-паралітычны газ. А бомбы пад машыны — гэта ж проста супэр!

Дзевяць хвілінаў.

*Parker-Morris Building* зваліцца ўсім сваім сто дзевяноста адным паверхам, паваліцца павольна, як дрэва ў лесе. Як бервяно. Ты можаш заваліць што заўгодна. Гэта ж падумаць, што месца, на якім мы цяпер тырчым, будзе ўсяго толькі кропкай у небе!

Мы з Тайлерам на краі даху, у мяне ў роце рэвальвэр. Ці ён хоць чысты, гэты рэвальвэр?

З акна вылятае другая шафа, а зь яе — шуфлядкі, а зь іх, нібы чарада галубоў, — гурбы белай паперы. Аркушы падхоплівае вецер. Гэта так адпадна, што мы зусім забываемся пра Тайлерава забойства-самагубства.

Восем хвілінаў.

Потым выбітыя шыбы пачынаюць курэць. Дым, ідзе дым. Зьнішчальная група дасьць першы сыгнал да атакі мо хвілінаў праз восем. Гэткі гмах ператворыцца ў пыл, і толькіягоныя фоткі застануцца ў гістарычных кніжках.

Пяць здымкаў, падзеі ў разьвіцьці: будынак стаіць, потым будынак нахіліўся на 80 градусаў, потым — на 75 градусаў. На чацьвертым здымку — 45 градусаў, і ягоны каркас ужо не вытрымлівае, гнецца. Апошні здымак — увесь сто дзевяноста адзін паверх з грукатам падае на Нацыянальны музэй, у які насамрэч хацеў пацэліць Тайлер.

"Гэта наш сьвет, цяпер гэта наш сьвет, — кажа Тайлер. — А ўсе колішнія людзі памерлі".

Калі б я ведаў, што з гэтага ўсяго выйдзе, лепш бы я быў памёр і апынуўся адразу на Нябёсах.

Сем хвілінаў.

На версе *Parker-Morris Building* з рэвальвэрам у зубах. Сталы, шафы, кампутары ляцяць у бок натоўпу, нібы мэтэоры, дым прэ праз выбітыя шыбы, а трыма кварталамі ніжэй, па вуліцы, група зьнішчэньня сочыць за гадзіньнікам, і я ведаю ўсё гэта: рэвальвэр, анархія, выбух — усё гэта, на самой справе, з-за Марлы Сынгер.

Шэсьць хвілінаў.

У нас тут нешта накшталт трохкутніка. Мне патрэбны Тайлер. Тайлеру патрэбна Марла. Марле патрэбны я.

Я не хачу Марлы, а Тайлер ня хоча, каб я быў побач, больш ня хоча. Гэта не пра каханьне, гэта пра валоданьне.

Бяз Марлы ў Тайлера не было б ні халеры.

Пяць хвілінаў.



Можа, мы маглі б увайсьці ў легенду, а можа й не. Не, кажу я, але чакай.

Дзе быў бы Езус, калі б ніхто не напісаў Эвангельляў?

Чатыры хвіліны.

Я адганяю языком рулю да шчакі і выціскаю: ты хочаш увайсьці ў легенду, Тайлер, і я зраблю цябе легендай. Я быў тут з самага пачатку.

Я памятаю ўсё.

Тры хвіліны.

**Пераклала Вольга Гапеева паводле *Chuck Palahniuk. Fight Club. – New York: Henry Holt & Company, 1999.***

# Гасьцініцы Беларусі

**У большасьці краінаў гатэлі — гэта месца камфортнага адпачынку з наборам сэрвісу, што чалавек ня мае ў сябе ў хаце. Гэткія гатэлі ставяцца ў зручных месцах, каб чалавек мог палюбавацца рэдкім краявідам, дыхануць чыстага паветра, альбо, наадварот, апынуцца без праблемаў у самым цэнтры гораду з усімі ягонымі выгодамі...**

У Беларусі ўсё ня так. У нас гасьцініцы былі зазвычай месцам вельмі кароткага побыту "камандзіровачных", якім не да адпачынку. Калі не лічыць адпачынкам расьпіцьцё пасьля працы ў нумары гарэлкі. З таго вынікае й стаўленьне беларускага гатэльнага "пэрсаналу": "Тут вам не санаторый!..".

Які ў горадзе лад, гэткі ж будзе там і гатэль.

Самы шыкоўны беларускі гатэль стаіць ня ў якім Мядзеле, Браславе ці Нясьвіжы, а ў... Наваполацку — трохзоркавы "Нафтан".

Нечакана камфортны й дагледжаны гатэль вас сустрэне ў Століне тоўстымі віетнамскімі кілімамі. Там заўжды ёсьць і гарачая вада, і душавыя ў нумарах.

А вось у Краснапольлі ў свой час мне давялося жыць у гатэльчыку, дзе ўсе выгоды былі на двары, разам з рукамыйнікам. А пітная вада стаяла там на калідоры ў вёдрах. Паколькі сьвятла на двары не было, а цямнела хутка, мала хто рызыкаваў скарыстацца драўлянай прыбіральняй. Таму першае, чым вітала цётка-вахцёрка гасьцёў, было: "Хлопцы, вы ж хоць пад вокнамі не сярыце...".

У Мазыры гатэль "Прыпяць" стаіць на высачэзнай гары, і да яго трэба ўздымацца па тратуары, засыпаным яблыкамі, што ўсё коцяцца й коцяцца некуды ўніз. Затое з балькону верхняга паверху адкрываецца цудоўная панарама гораду й прыпяцкіх паплавоў, у якіх зьвіваецца, нібы анаконда, вялізарная рака. Рэкамэндую ўстаць да сьвітанку, не пашкадуеце.

Важная рэч — наяўнасьць у гатэлі кавярні ці буфэту. Вельмі прыстойна кармілі некалі ў мсьціслаўскім гатэлі. А вось аднаго вечара ў Міры, не знайшоўшы нагул, дзе паесьці ў мястэчку, еў тушаніну з кансэрвы. Два суседы па нумары, чачэнцы, паназіраўшы за мною, неяк лоўка здолелі разагрэць тую тушаніну з дапамогаю самаробнага кіпяцільніка... Сыта й разнастайна кармілі некалі ў гатэлі "Магілёў". А ў Быхаве, засеўшыся там на два тыдні на раскопках, мы знайшлі нагэтулькі супольную мову з паварыхамі, што яны адмыслова для нас, рэстаўратараў, гатавалі шыкоўныя калдуны і раз-пораз частавалі гароднінай з уласных гародчыкаў.

Самае цікавае ў гатэльным жыцьці — людзі.

Падняўшыся на свой паверх у мазырскім гатэлі, зьвярнуўся да калідорнай, відавочна не беларускага выгляду, па-беларуску, гатовы перапытаць па-іншаму. А яна раптам уся расквітнела й загаварыла са мною таксама па-беларуску. Высьветлілася, што яна — туркмэнка, і прыехала сюды разам з мужам, які працуе на кабэльным заводзе. Мяркуючы, што ў Беларусі, як і ў Туркмэніі, усе гавораць па-свойму, яшчэ да прыезду вывучылася па-беларуску й дзяцей пачала вучыць. Гэтак жа радавалася некалі маёй беларускай мове парцье ў Ветцы. А вось у віцебскім гатэлі "Эрыдан", як ні намагайся, па-беларуску не адкажуць. Затое ў іхным фае сядзіць жывы хамэлеон.

Ну і самае-самае цікавае — гэта насельнікі гатэляў, іхныя *проживающие*. Вось былі ў мяне суседзі ў Краснапольлі — два дзядзькі з заавэтнагляду, якія вымяралі ўплывы радыяцыі на жывыя арганізмы. Прынесьлі мне жывога шчупака ў вядры, каб я пераканаўся, як ад яго пішчыць дазымэтар. А вось у Гомелі быў сусед з Расеі, інжынэр, дык усё ня мог узяць у цям, як гэта я беларус. "Вось, — кажа, — прыбалты, я разумею. Там у Азіі нехта. А беларусы — гэта тыя ж расейцы". А ў гатэлі "Беларусь", што ў Горадні, ужо я ўразіў выпадковага суседа. Мне давялося трымаць у скрынях плён археалягічных раскопак, антрапалягічны матэрыял: чарапы, косткі. А суседам апынуўся міліцэйскі сьледчы, вельмі датклівы й ветлівы чалавек. Ён не хацеў мяне будзіць і не запальваў сьвятла, як выходзіў з пакою. Выпадкова ён крануў скрынкі, і па паркеце... пакаціліся чарапы. Доўга давялося тлумачыць, хто я такі.

Суседам можа апынуцца й пісьменьнік, і археоляг, і шафёр, і вайсковец, і студэнты зь Лібану, і пахмурнага выгляду людзі ў цывільным. А ты ідзеш сабе, міжволі круціш галавою, міжволі з усімі вітаешся. Пакідаючы чарговы гатэль, абавязкова павязеш з сабою чарговы, ня ведамы й не чаканы да прыезду сюды досьвед.

**Сяргей Харэўскі**


IREX-PROMEDIA

# Тут мог бы стаяць ваш гатэль

На беразе Нёмана на Навагрудчыне сярод руінаў Любчанскага замку сіратліва стаіць будынак былой вясковай школкі. Сёньня будынак амаль не выкарыстоўваецца і, гэтаксама як суседнія дзьве замкавыя вежы, гібее ў занядбаньні. Калі сёлета я наведваў гэтыя мясьціны, дык падумалася: выдатны атрымаўся б з будынку гатэльчык. Наўкола легендарныя мясьціны: праз раку пачынаецца Налібоцкая пушча, дый сам Нёман варты, каб ля яго правесьці пару пагожых дзянёчкаў адпачынку. Непадалёку — Сьвіцязь зь міцкевічаўскімі рэліквіямі, а сам Навагрудак? А былыя шляхецкія маёнткі ў Шчорсах, Асташыне? Ёсьць тут што паглядзець і дзеля чаго прыехаць.

Прыехаць можна, а спыніцца няма дзе. Асабліва замежным турыстам, ня вельмі ахвочым да рамантыкі начлегаў у намёце, сьнеданку ля вогнішча і спраўленьня патрэбаў у хмызьняку ля ракі. Вось для такіх сьпешчаных турыстаў і варта было б зрабіць цывілізаваны гатэльчык у Любчы. І самому Любчанскаму замку было б карысна прысуседзіцца да заезнага двара: і руіны пачалі б дагледаць, а з часам новыя гаспадары ўзяліся б за аднаўленьне радавога гнязда беларускага магнацкага роду Кішкаў. Бо няма нічога больш рамантычнага, чым спыніцца на начлег у замку. Толькі ня хутка тое можа адбыцца. Дзяржава за такую справу ня возьмецца. Прыватныя ж інвэстары не насьмеляцца. Ня тая сытуацыя сёньня ў Беларусі, каб гэтак безразважна рызыкаваць грашыма.

У дзяцінстве мне падавалася, што кватэра маіх бацькоў — самае надзейнае месца ў сьвеце. А ў шуфлядах твайго пісьмовага стала ўсё захоўваецца больш надзейна, чым у сэйфах швэйцарскіх банкаў. Як я памыляўся! У Беларусі няма нічога трывалага і надзейнага. Дзеці пазбаўляюцца гэтак званага сьмецьця пасьля сваіх бацькоў — па гарадзкіх дварах тады лётаюць старыя фатаздымкі, лісты і паштоўкі. Аджыў сваё чалавек, і адправілі ўсе ягоныя транты на сьметніцу. Пражыла пэрыяд краіна, і сьпісалі ў невараць усе ейныя набыткі.

"Якія гатэлі, — думаеш ты, — калі нават Любчанскі замак ператвараецца ў пыл? І толькі Нёман нясьпешна нясе свае воды ў Балтыку. Як сто гадоў таму, як тысячу гадоў таму".

**Алесь Аркуш**



# Рукапіс, пакінуты ў гатэлі

**Кожны з нас за жыцьцё ўсялякія бачыць гатэлі: ад амэрыканскіх "Рэдысанаў" са штучнаю пазалотаю дзе трэба й дзе ня трэба да расейскай "Масквы", дзе некалі пасярод лета ў лесьвічны пралёт упаў найвялікшы беларускі паэт. "Фае гатэлю — па-расейску разьлеглае і па-савецку няўтульнае", — згадваю фразу з апавяданьня Вінцэся Мудрова. Згадваю таксама мурашнік-"Форум" у цэнтры Варшавы альбо малюпасенькі драўляны местачковы будынак, дзе з аднаго боку ўваход вёў у гатэль, а з другога — у трупярню. Раніцою з гатэльнага акна можна было назіраць, як на падворку зьбіраюцца далакопы. Чакаюць працы. Хоць мястэчка настолькі маленькае, што за ноч, магчыма, ніхто й не памёр.**


Гатэль "Форум" у Варшаве

Станіслаў Шушкевіч нядаўна сказаў: найлепшае, што засталося сёньня ў Беларусі — гэта гасьціннасьць нашага народу. Другая назва гатэлю — гасьцініца. Выглядае, што беларускія гатэлі мусілі б быць эпіцэнтрамі гэтай самай нацыянальнай гасьціннасьці. Але гэта не зусім так. Гатэлі ў Беларусі — для камандзіровачных (цяпер, праўда, яшчэ пад офісы і для паседжаньняў апазыцыйнае намэнклятуры). У кожным разе, больш для працы, чым для адпачынку. Гэтую выснову пацьвярджаюць турыстычныя каталёгі. Да прыкладу, ні ў водным каталёгу буйных расейскіх турагенцтваў ня тое што які гатэль, але сама Беларусь ня згадваецца ні разу. Гэта ня месца для турызму.

Гісторыі, пачутыя ды пабачаныя ў гатэлях, можна пераказваць бясконца. Яны сапраўды часьцяком ператвараюцца ў апавяданьні. Згадваю страшнаваты трылер Адама Глёбуса пад назваю "Прымусь сябе жыць у Лагойску". Студэнт мастацкага інстытуту прыяжджае на эцюды і спыняецца ў лагойскім гатэлі. Глядзі, не перапэцкай фарбамі бялізну, — папярэджвае яго гатэльная служка. У адзін нумар да нашага героя падсяляюць двух камандзіраваных — фінінспэктара і ягонага прыяцеля, сабутэльніка, якога інспэктар возіць з сабою, каб ня піць зь мясцовымі і каб ня піць аднаму. Два дзядзькі сядаюць і без адзінага слова выпіваюць бутэльку гарэлкі. Так паўтараецца штовечар. У поўным маўчаньні. А аднога разу пасярод ночы сабутэльнік бярэ ды забівае інспэктара. Дзікі лямант, гатэльны пакой, заліты крывёю. Вось табе і эцюды, і незапэцканая бялізна. Вось і прымусь сябе жыць у Лагойску.

Мала думаюць у Беларусі пра пэрспэктыву ў два бакі — пра гісторыю і будучыню. А таму ўсё існаваньне нібыта гатэльнае, не зусім тваё. Ты не спыніўся ў заезным двары па дарозе ад бацькоў дахаты. Ты ў гэтым заезным двары жывеш. І ўсё жыцьцё — нібы камандзіроўка.

Камандзіровачныя прыстанкі сапраўды ніколі не разглядаліся ў нас як месцы адпачынку. І як месцы працы таксама. Яны былі месцам адрыву ад аднастайнае рэальнасьці штодзённага жыцьця, дзе дазвалялася выйсьці за рамкі, прайсьці па лязе. Гэта ўжо пасьля камандзіроўкі можна было перавесьці дых, згадваючы ці то небясьпечную прыгоду, ці рызыкоўны флірт, ці беспрабудную п'янку. Камандзіровачны — казённы чалавек. Гэта асоба, у якой максымальна выражаная залежнасьць ад начальства і дзяржавы спалучаецца з максымальнай свабодаю ад сям'і і маралі таго асяродку, адкуль асоба прыехала.

Фантастычная ідэя — вызначыць характэрныя рысы і філязофію беларускіх гатэляў, скажам, семдзясятых гадоў і, маючы ў руках гэткі інструмэнтар, прааналізаваць літаратурны працэс адпаведнага пэрыяду. Кажу пра семдзясятыя як пра давершаны ва ўсіх сэнсах этап. У наступныя часы ўсё нібы паплыло — і ў літаратуры і ў гатэльнай гаспадарцы.

А сёньня заўважныя ўжо зусім іншыя тэндэнцыі. Да прыкладу, ня раз даводзілася чуць, што нейкая сямейная пара выбіраецца куды-небудзь у Клецак ці Нясьвіж на пару дзён, без усялякае мэты. Ён і яна спыняюцца ў тамтэйшым гатэлі, робяць выхады ў горад да мясцовых прыкметнасьцяў, а вяртаюцца адтуль з мноствам найлепшых уражаньняў і поўныя новых сілаў. Гэтак, паступова, нягледзячы на неспрыяльныя для гатэльнага бізнэсу і турызму ўмовы, нашы часовыя прыстанкі пачынаюць абслугоўваць ня толькі каман-

Працяг са старонкі 1.

# Нэаказакі
## у краіне Радзівілаў

У 1995—97 г. пад зваротамі ў прэсе ён падпісваўся як кіраўнік фонду "Нерухомасьць".

У Віцебску існавала асобная казацкая арганізацыя "генэрала" Афанасьева, зь якой улахоўцы канфліктавалі, вінавацячы ў выкарыстаньні іхных рэквізытаў.

Аднак хутка лякальныя канфлікты тутэйшых атаманаў спыніла ўмяшальніцтва звонку. У Беларусі было створанае Пасольства Расейскага казацтва, а паслом прызначаны генэрал-маёр казацкіх войскаў Мікалай Ярковіч. Апошні быў як бы прадстаўніком беларускай дыяспары на Кубані — ён паходзіў ад тых магілёўцаў, зь якіх у XIX ст. фармавалі палкі для барацьбы з румынскімі баярамі, і ідэальна падыходзіў на ролю кіраўніка і арганізатара беларускага казацтва.

Непасрэдным начальнікам Ярковіча быў генэрал-лейтэнант (не казацкіх, а самых сапраўдных войскаў) Мікалай Ярохін, 1-ы намесьнік кіраўніка Саюзу Казацкіх Фармаваньняў Расеі, кіраўнік Прадстаўніцтва Кубанскай Казацкай Асацыяцыі ў Рэспубліцы Беларусі.

Крутыя атаманы пачалі змагацца з анархіяй на беларускім казацкім полі. Паўстаў шэраг пытаньняў: чаму Улаховіч раздае саматужныя мэдалі, тады як, паводле закону, грамадзкая арганізацыя можа карыстацца хіба значкамі? Чаму сябры Берасьцейскай абласной арганізацыі ЛДПБ адначасова зьяўляюцца казакамі, хоць статут забараняе казаку ўступаць у палітычныя партыі?..

А пасьля праверкі званьняў высьветлілася, што Улаховіч быў зусім не генэрал-палкоўнікам, як сьцьвярджаў спачатку, і нават не генэрал-маёрам, як казаў пасьля, а проста палкоўнікам. Афанасьеў, які хадзіў у генэральскім шынэлі, таксама выявіўся самазванцам. Пасьля візыту ў Віцебск Ярковіча і Ярохіна яго арганізацыя распусьцілася.

У верасьні 1997-га адбыўся 1-ы зьезд беларускіх казакоў, на якім Мікалай Ярковіч з пасла нечакана ператварыўся ў Вярхоўнага Атамана тамсама ўтворанага Усебеларускага Адзінага Казацтва.

Бацька Ярковіч прылюдна дэкляраваў вернасьць сьвятым ідэалам казацкага статуту. Штопраўда, згодна са статутам, казацкія арганізацыі закрытыя для староньніх асобаў, а ва Усебеларускае Адзінае Казацтва ўвайшлі, чамусьці, "аўганцы" і нават асацыяцыя пэдагагічных працаўнікоў, кіраўнік якой, Мікалай Фамічоў, стаў 1-м намесьнікам Ярковіча.

Усебеларускае Аб'яднанае Казацтва (так яно стала называцца пасьля зьезду ўвосень 98-га) стварыла на базе сярэдняй школы №21 кадэцкі корпус. УАК арганізавала ансамбль "Казакі Белай Русі" з студэнтаў кансэрваторыі і Унівэрсытэту культуры. Узначальвае яго вайсковец Сяргей Хрушчоў.

УАК запрашала на свае зьезды атаманаў з Расеі і Украіны, якія выказвалі падтрымку А.Лукашэнку. Штаб-кватэру УАК рэгулярна наведвае колішні сакратар Суслава, брэжнеўскага "шэрага кардынала", а цяпер кіраўнік казацтва Поўдня Украіны, генэрал-маёр, Герой Савецкага Саюзу Уладзімер Маркоўскі-Цярэшчанка.

Нягледзячы на канфрантацыю, Беларускае і Усебеларускае казацтва ўвайшло ў Рэспубліканскую Каардынацыйную Раду, якая займалася падтрымкай прэзыдэнта на выбарах.

Апроч гэтых арганізацыяў, у Менску існуе Прадстаўніцтва Краснадарскага краю ў Рэспубліцы Беларусі, пры якім ёсьць казацкія структуры. Іхны "Казачы двор" вызначыўся тым, што браў удзел у сходзе з нагоды атрыманьня кампэнсацыяў ад Нямеччыны за другую сусьветную, які ладзіла Сусьветная Асацыяцыя Беларускіх Габрэяў, узначальваная Якавам Гутманам. Павінны былі яшчэ ўдзельнічаць цыганы, але яны ў апошні момант адмовіліся. Я пацікавіўся ў Якава Гутмана аб прычыне такога экзатычнага складу і атрымаў адказ: "Мы запрашалі ўсіх, але адгукнуліся толькі казакі". Што ж, даводзілася чытаць, як у Азове данцы прымалі ізраільскіх бізнэсоўцаў у гульбішчы казакі, церскія казакі крычалі "Люба!" Беразоўскаму, а кубанскія ў 95-м прынялі ў свае шэрагі Аляксандра Лукашэнку.

Цяпер паспрабуем праліць сьвятло на тое, што горача адстойваюць казакі і што адмаўляюць сьвядомыя беларусы. А менавіта: ці ёсьць у Беларусі гістарычныя традыцыі казацтва.

Слуцкія казакі, чальцы УАК, сьцьвярджаюць, што яны спадчыньнікі слуцкага казацкага гетмана Сакалоўскага. Слуцкі шляхціц Сакалоўскі ўцёк некалі ў Сеч. Багдан Хмяльніцкі паслаў яго з загонам у родныя мясьціны падымаць мужыкоў. Казакі баламуцілі народ, палілі фальваркі. У бай каля вёскі Пагост у 1639 г. войскі Януша Радзівіла разьбілі атрад Сакалоўскага. Былі забітыя сам самазваны гетман і вайсковы пісар Турчыновіч. Другім "папярэднікам" сёньняшніх слуцкіх казакі лічаць атамана Платава. Яны нават ладзілі ў Міры раскопкі на месцах іхных баёў з французамі ў 1812 г. і знайшлі нейкія гузікі, якія адпавядаюць казацкай форме тых часоў.

Нэаказакі, якія могуць быць толькі тэмай для паказак, засланілі сёньня казацтва сапраўднае.

**Сяргей Носаў**

---

дзіровачных, але й тых, хто прыяжджае адпачыць.

Што такое, па сутнасьці, гатэль? Тая ж бібліятэка — толькі жывая. Тыя ж калідоры і ячэйкі. Але ў гатэльнай тумбачцы каля ложку дазваляецца быць толькі адной кнізе — Бібліі.

Гатэль "Форум" у Наваполацку

Летам у жыцьці становіцца болей літаратуры. Болей дарог, краявідаў, людзкіх вобразаў. Ты толькі пасьпявай занатоўваць, і пад рукою самі сабою будуць складацца такія апавяданьні, што ніколі не прыдумаеш наўмысна. Іншы раз нават асэнсаваць ня здолееш таго, пра што пачуў, бо надта ж чужое табе тое жыцьцё. Альбо наадварот, параўнаеш са сваім і пра сябе зразумееш такое, што раней у галаву не прыходзіла. А назаўтра — зноў выпраўляешся ў шлях, пакінуўшы свае запісы на століку гатэльнага нумару.

**Сяргей Паўлоўскі**

---

**БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ**

# Кіраваць будуць разумныя

З-за таго, што Эўропа з кожным годам будзе ўсё больш арабскай, праз 100 гадоў і ў нашай краіне зноў пачнуць пісаць арабіцай, ці так званым Аліфам. Новай абэцэдай будуць выдавацца клясыкі сучаснасьці. Кірылічны правапіс застанецца адно ў цэрквах.

Праз 100 гадоў у пашпартах грамадзянаў Беларусі ня будзе даты нараджэньня. Яе зьменіць дата сьмерці (генная інжынэрыя дасьць магчымасьць дакладна гэта вызначыць пры зьяўленьні немаўляці на сьвет). Карыстаючыся зьвесткай аб сьмерці, людзей будуць прымаць або не прымаць на працу, абіраць ці не абіраць прэзыдэнтам... Многія злачынцы пазьбегнуць адказнасьці за свае дзеі толькі праз тое, што на час суду амаль скончаць свой зямны шлях.

Яшчэ ў пашпарце зьявіцца спэцыяльны разьдзел, дзе будзе вызначацца *IQ* уладальніка на пэўны момант жыцьця. Дзякуючы ёй, зьнікнуць ранейшыя невырашальныя пытаньні кшталту "чаму дурны кіруе разумным?".

А газэта "Наша Ніва" будзе існаваць і тады. Паколькі яна будзе разглядацца помнікам гісторыі і культуры Беларусі, яе наклад будзе штучна стрымлівацца на сёньняшняй мяжы 5 тыс. экзэмпляраў — каб захаваць колішнюю элітарнасьць. Падпісчыкі будуць адбірацца праз конкурс. Трапіць у лік выбраных будзе лічыцца за гонар кожны, а чытачы "НН" у другім і трэцім пакаленьні аўтаматычна стануць ганаровымі сябрамі Акадэміі краіны.

**Усевалад зь Вялейкі**

---

## Новы праект "Нашае Нівы"

2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

---





## Шалёны чалавек

**Немянчын, Віленскага пав.** У лесе Немянчынскага лясьніцтва паявіўся шалёны чалавек і, як кажуць, быццам-то пакусаў кабету, каторая ехала зь Вільні, а посьле гнаўся за бабамі, што зьбіралі грыбы. Цяпер аколічныя жыцелі баяцца ісьці ў лес, а найбольш кабеты, каторым і грыбоў хочацца, але і скура свая дарагая. Гаспадары цешацца, што ёсьць каму бульбу капаць.

Біч

**29 верасьня 1911 г., №39.**

---

# Якуб Кенігсберг: “Трэба плянаваць усё з улікам, што радыяцыя застанецца з намі на 300 гадоў”

**Пра Чарнобыль трэба думаць. На гэтым мы пагадзіліся, калі нядаўна пісалі пра дыскусію, выкліканую артыкулам Барыса Тумара "Перабольшаны Чарнобыль" у адным з красавіцкіх нумароў "НН". Грамадзтва ж выбрала іншы шлях: забываньне Чарнобылю, ігнараваньне гэтае тэмы, якую ўзьнімаюць толькі рытуальна, пад юбілеі катастрофы. Вось і ў праграмах кандыдатаў у прэзыдэнты пра Чарнобыль не было анічога канкрэтнага. Таму што рэальна ніхто нічога ня можа прапанаваць? Таму што Брагіна зь Менску не відаць? Але кожнага разумнага чалавека тэма Чарнобылю непакоіць штодзённа. Гэта нармальна: гэта клопат пра сябе, сваіх дзяцей, здароўе краіны. На пытаньні "НН" адказвае прафэсар Якуб Кенігсбэрг.**

**"НН": Як Вы пракамэнтуеце тое, што ў СМІ апошнім часам пачалі ўзьнікаць наступныя выказваньні: "Чарнобыль — прыбытковы міт", "Чарнобыль — самы вялікі блеф XX ст."? Ці можна казаць, што праблема сапраўды разьдзьмутая?**

**Якуб Кенігсберг:** Лічу гэта другой крайнасьцю. Другой, бо першая — крычаць, што нацыя ўжо ўчора вымерла. Гэта абсалютна ня так.

Мы ня першы раз спрабуем давесьці да людзей наступнае: немагчыма пакуль дакладна ведаць, чым у будучыні выбухне (і ці выбухне ўвогуле) для нас Чарнобыль, таму што прайшло ўсяго 15 гадоў. Скуль мы можам ведаць, што нас чакае там, калі досьведу такога папросту ня маем? Японцы робяць назіраньні за пацярпелымі з 1945 году, але канчатковых высноваў так і не зрабілі.

Дай Божа, каб нічога нас там не чакала, і лекары з навукоўцамі ня мелі "жывога матэрыялу" для дасьледаваньня.

Але казаць цяпер пра перабольшанасьць... Гледзячы, зь якога боку.

Сьцьвярджаю, што Чарнобыль — гэта ня проста праблема ці трагедыя. Гэта — Катастрофа. І ня столькі таму, што людзі атрымалі дозы апраменьваньня, а радыеэкалягічную сытуацыю дачарнобыльскага часу проста немагчыма будзе ўзнавіць (не навіна!), але ж таму, найперш, што адбылася ***дэструкцыя звычайнага ладу жыцьця*** агромністай колькасьці насельніцтва, што апынулася ў "зоне". Натуральна, што адразу пасьля аварыі першаснай задачай было як мага хутчэй выдаліць фактар непасрэднага ўзьдзеяньня радыяцыі на арганізм пацярпелых — і людзей вывозілі на "чыстыя" тэрыторыі. А вы ўяўляеце сабе, што гэта такое — рэзкая і поўная замена звычнага рытму, умоў і укладу жыцьця, асабліва для людзей сталага веку? Бяда. Псыхалягічны і фізіялягічны стрэс для чалавека. Вось яна, сярэдзіна праблемы.

(Дарэчы, ёсьць такія цікавыя дадзеныя, што ў перасяленцаў у Нямеччыну (памятаеце хвалю іміграцыі з СССР у др.п. XX ст.?), прыкметна павялічыўся рост захворваньняў сардэчна-сасудзістай, нэрвовай ды інш. сыстэм, а яны ж у лепшыя эканамічныя ўмовы трапілі!)

**"НН": Тады, натуральна, узьнікае пытаньне: ці ёсьць хоць якая карысьць ад часовага вывазу чарнобыльскіх дзяцей за мяжу? Памойму, той самы стрэс, акліматызацыя, потым зноў вяртаньне ў старыя ўмовы?**

**Я.К.:** А па-мойму, карысьць ёсьць хаця б з такіх прычынаў: магчымасьць для дзяцей адпачываць у лепшых умовах і бачыць, як жывуць людзі ў цывілізаваных краінах. Можа, калі-небудзь узгадаюць тое лепшае ды прынясуць гэта ў нашае жыцьцё...

**"НН": Існуе такая думка, якая прапагандуецца афіцыйнымі ўладамі, быццам бы мы ня ў стане самастойна справіцца з гэтай бядою ні матэрыяльна, ні маральна — а значыць, нас выратуе зьвяз з Расіяй...**

**Я.К.:** Давайце спачатку разьбяромся, што ж мы разумеем пад "справіцца зь бядою". Залежыць ад таго, чаго мы хочам дасягнуць. Напрыклад, справіцца з экалягічнымі зьменамі — заражанымі глебамі, мёртвымі лясамі і да т.п. — на забруджаных тэрыторыях. Дык гэта на практыцы немагчыма, ва ўсякім разе, сёньня і заўтра і яшчэ даволі доўга. Няма яшчэ такіх тэхналёгій у сьвеце. Тады, можа, у каго ўзьнікае пытаньне: як справіцца з дозамі апраменьваньня, што атрымалі нашыя суайчыньнікі? Ізноў такі трэба выразна сабе ўсьвядоміць: ***нельга пазбавіцца ўжо атрыманай дозы, яна застаецца з чалавекам на ўсё жыцьцё***. Трэба дбаць пра тое, каб не дапусьціць паўторнага апраменьваньня, абавязкова праводзіць шырокае мэдабсьледаваньне і выхоўваць т.зв. *радыяцыйную культуру*.

Вы пытаецеся, ці можам самі вырашыць свае надзённыя праблемы. Вядома, бо маем высокакваліфікаваны і высокакампэтэнтны навуковы штат, які трывала зарэкамэндаваў сябе за мяжой. Але ніхто не сумняецца, што ў супольнасьці з такога самага ўзроўню навукоўцамі Эўропы, ЗША, Японіі і суседніх Украіны з Расіяй мы зможам працаваць хутчэй і эфэктыўней — гэта відавочна.

**"НН": Якую ролю, на Вашую думку, адыгрывае інфармацыя і інфармаваньне насельніцтва?**

**Я.К.:** Думаю, адну з найгалоўнейшых. Але тут ёсьць свае цяжкасьці: пацыент заўсёды чуе тое, што хоча пачуць, не жадае ведаць праўду пра сваё здароўе. І выйсьце мне бачыцца ў несупыннай працы з грамадзтвам, у настойлівым тлумачэньні, дзеля чаго трэба рабіць так (напрыклад, заўтра не пі малако) і не рабіць гэтак (напрыклад, не зьбірань грыбоў), каб не прызвычайваліся быць толькі пасыўнымі спажыўцамі, але адказвалі самі за сябе і жадалі сабе лепшага. Можа, гучыць рэзка, але трэба прымусова насаджаць радыяцыйную культуру (веданьне нормаў і спэцыфікі жыцьця ў радыяцыйна небясьпечных раёнах), бо неабходна навучыць людзей жыць у такіх умовах, каб яны сьведама трымаліся нормаў радыяцыйнай бясьпекі і не апускалі рук. Дарэчы, цяпер рэалізуецца такая француска-беларуская супольная праграма па рэабілітацыі насельніцтва ў натуральных умовах існаваньня — *Ethos*. Навукоўцы працуюць з жыхарамі канкрэтнай палескай вёскі Альманы, што на Берасьцейшчыне.





Якуб Кенігсбэрг — намесьнік дырэктара Навукова-дасьледчага клінічнага інстытуту радыяцыйнай мэдыцыны і эндакрыналёгіі, прафэсар.

**"НН": І ўсё ж у мяне выразнае адчуваньне, што не да канца пасьлядоўна праводзіцца такая праца. Я асабіста за ўсе 15 гадоў ні разу не трымала якой-кольвек "лікбезаўскай" брашуркі, а сярод народу часьцяком чуваць: няма ніякай радыяцыі, выпетрылася ўжо. Значыць, так і ня выхавалі ў простага чалавека неабходнасьць у веданьні? Хіба гэта не парафія дзяржаўнай улады?**

**Я.К.:** Не магу пагадзіцца з тым, што мала было зроблена дзеля элемэнтарнай адукацыі жыхароў "зонаў". Была агромністая колькасьць брашураў, ініцыятыўных групаў, дабрачыннымі фондамі ствараліся спэцыяльныя клюбы, дзе чыталіся папулярныя лекцыі. Памятаеце, напачатку ў газэтах друкаваліся мапы і табліцы са зьвесткамі па забруджанасьці тэрыторый. А ў сярэдзіне мінулага дзесяцігодзьдзя ў бытнасьць рэктарам Сахараўскага ўнівэрсытэту Аляксандар Люцко падрыхтаваў некалькі грунтоўных падручнікаў па радыяцыйнай бясьпецы для вучняў пачатковай і сярэдняй школак, што так і ня былі выдадзеныя прыстойным накладам, а тыя статыстычныя публікацыі ў газэтах таксама хутка прыпыніліся. Чаму? А на маю думку, таму, што не выглядала на эпатажнае або, як зараз кажуць, "камэрцыйнае". Не магу не ўстрымацца ад таго, каб абвінаваціць некаторыя СМІ, якія шмат шкоды нарабілі, гонячыся за сэнсацыяй. Дазвалялі сабе пісаць тое, што хацелі, а ня тое, што было на самой справе, штосьці накшталт "нацыя памірае", "Беларусь загінула ўчора", жахлівікі пра генэтычных выродкаў ды інш. У выніку — людзі страшэнна перапалохаліся, а потым і ўвогуле апусьцілі рукі, сталіміся.

Інфармацыю фармуюць тыя, ад каго яна выходзіць, значыць, вельмі важна, каб гэтыя інстанцыі былі кампэтэнтнымі і добра разумелі сваю адказнасьць, бо яны прычыняцца да фармаваньня правільнага *ўспрыняцьця радыяцыйнай рызыкі*. Менавіта з прычыны таго, у якім выглядзе падаецца інфармацыя, залежыць, як людзі будуць успрымаць небясьпеку. Да зьяўленьня ў нашай сьвядомасьці т.зв. *ваеннага радыяцыйнага фактару* ў чалавека не было боязі перад радыяцыяй як такой, боязь — вынік стварэньня ядравай бомбы, і значыць, пагрозы вайны.

**"НН": А ці значыць гэта, што тая паніка, што ў першыя гады пасьля аварыі ахапіла нашых людзей, была штучна справакаваная якраз адсутнасьцю дакладнай інфармацыі і ўвогуле яе даступнасьці? І па-мойму, з той самай прычыны цяпер — ухіл у радыкальна супрацьлеглы бок: усеагульная апатыя і абыякавасьць, нежаданьне самастойна змагацца і імкнуцца да паўнакроўнага жыцьця — "усё адно памром"?**

**Я.К.:** Паніка сярод насельніцтва пасьля катастрофы на ЧАЭС сапраўды разгарэлася найперш з прычыны непадрыхтаванасьці і элемэнтарнай неадукаванасьці. Патлумачу: Францыя, да прыкладу, што займае 2-е месца ў сьвеце па выкарыстаньні электраэнэргіі, што выпрацоўваецца АЭС, мае выключны досьвед, зь якога ня шкодзіла б скарыстаць, — там станцыі адчыненыя для наведваньня, ладзяцца экскурсіі, дзе даступным чынам тлумачыцца, як працуе аб'ект, што можа здарыцца і як сябе паводзіць тады.

Дапушчальна, калі такога кшталту аб'екты, як ЧАЭС, — закрытыя, але да той пары, пакуль не здараецца штосьці такое, што выходзіць за яго фізічныя межы (як у выніку буйной аварыі). Вось тады ўкрыцьцё сапраўднай інфармацыі можа прынесьці большую шкоду, чым сама аварыя. У такой сытуацыі надзвычай важная апэратыўнасьць. Палякі тады адразу раздалі сваім ёд, мы — не, тады як Беларусь спрадвеку эндэмічны рэгіён па ёдзе, і трэ было думаць пра гэта ў першую чаргу. Праз злачынны недагляд маем на сёньняшні дзень праблему ў выглядзе росту захворваньняў на рак шчытападобнай залозы — больш як 1500 выпадкаў сярод тых, хто ў 1986 г. быў у веку да 18 гадоў.

**"НН": Ці існуе сувязь паміж узроўнем захворваньняў і ўзроўнем забруджанасьці тэрыторыі?**

**Я.К.** Нельга ўвогуле казаць пра такога кшталту карэляцыю. Залежнасьць можа быць толькі паміж узроўнем захворваньняў і памерам дозы апраменьваньня, атрыманай канкрэтным чалавекам. (Нельга забываць, што кожны асобны чалавек індывідуальна рэагуе на пэўную дозу, залежна ад шмат якіх фактараў — асаблівасьцяў імунітэту, спадчыннасьці, стану здароўя на момант атрыманьня дозы і г.д.)

На сёньняшні дзень можна ўпэўнена казаць толькі пра сувязь дозы апраменьваньня і росту захворваньняў на рак шчытавіцы, бо існуюць адпаведныя дасьледаваньні і дадзеныя. Накont іншых відаў онказахворваньняў такіх навуковых доказаў пакуль няма. І ня дай Божа, каб зьявіліся праз 15 гадоў, калі скончыцца гэтак званы лятэнтны, ці патайны пэрыяд.

**"НН": Ці ёсьць у Вашай галіне якія-небудзь сапраўды сур'ёзныя праблемы, недапрацоўкі (найболей набалелае), што Вам хацелася б зьмяніць, каб зрабіць сваю працу больш камфортнай?**

**Я.К.:** Зьмяніць стаўленьне грамадзтва да чарнобыльскай праблемы. Я маю на ўвазе разуменьне грамадзтвам і ўладамі, што гэтая праблема застанецца з намі на працягу ня менш чым 300 гадоў (г.зн., 10 пэрыядаў паўраспаду цэзію-137 і стронцыю-90). Таму ўсё жыцьцё на забруджаных тэрыторыях трэба плянаваць з улікам чарнобыльскага фактару.

Я з аптымізмам гляджу ў будучыню, бо лічу, што падрасьце сьвядомае і неабыякавае пакаленьне, якое захоча жыць на сваёй зямлі і працягне нашую справу па перааддоленьні наступстваў катастрофы.

**Гутарыла Надзея Бракар**

# Ядвігін Ш. і Максім Багдановіч

Уладзімер Содаль

**У беларускім літаратуразнаўстве склалася думка, што Ядвігін Ш. не прымаў Багдановічавай паэзіі, лічыў яе дэкадэнцкай, паэзіяй чыстай красы. На самой справе, Ядвігін Ш. разумеў, што Багдановіч таленавіты паэт, толькі вось бяда — у Беларусі чытач яшчэ не падрыхтаваны да такой паэзіі. Самому ж Ядвігіну Ш. Багадановічавы вершы былі і сугучныя, і зразумелыя. Пра гэта сьведчыць не адзін факт.**






## ВАСІЛЬКІ

Да Ядвігіна Ш. прыйшла вестка, што ў Вільні аддрукавалі ягоны новы зборнік — "Васількі". З часу выданьня "Дзеда Завалы" мінула чатыры гады. Выдаць свае "Васількі" раней Ядвігін Ш. ня мог — не ставала грошай. І калі б не княгіня Магдалена Радзівіл, не было б дагэтуль ні ягонай кніжачкі, ні Буйлянчынай, ні Максімавай, ні Коласавай. Такіх апякунак, як яна, у Беларусі былі адзінкі.

"Васількі" Ядвігіна Ш., як і Максімаў "Вянок", вылецелі з-пад варштату друкарні Марціна Кухты. Але ня толькі выдавецкая суполка зрадніла "Васількі" і "Вянок". Гэтыя кніжкі яднаў і творчы дух.

"Васількі закрасавалі... Не, не закрасавалі!

Дзе ж ім цяпер красаваць? Холад. Зіма. Сьнег. Не закрасавалі васількі: гэта толькі перад вачыма маімі мільганулі яны. Нават не перад вачыма, а так недзе: не то ў думках, не то ў душы ці сэрцы? Ня ведаю дзе. Мігнулі васількі ў жыце... неба, як васількі... як васількі, вочкі... мігнулі васількі і... сьлёзы!

* * *

У красе нашага жыцьця мы любім, як красуюць васількі...

А калі паблекнуць васількі, паблекне неба, паблекне на душы, на сэрца ляжа холад".

Лявіцкі перачытаў імпрэсію яшчэ раз, і яму захацелася падзяліцца сваёй радасьцю з дачкой Вандаю, зь меншымі дзецьмі. Паклаўшы ў валізку колькі дзясяткаў "Васількоў" і "Нашае Нівы", Ядвігін Ш. накіраваўся на вакзал. Ён пакідаў Вільню.

...У Карпілаўцы ягоную сям'ю больш за ўсё зацікавіла, чаму на тытуле "Васількоў" намаляваны ў арнамэнтавым коле лебедзь. Ядвігін Ш. патлумачыў, што лебедзь — герб княгіні Магдалены, якая ахвяравала грошы на кніжку. Такі ж горды птах упрыгожваў і Максімаў "Вянок".

## СУСТРЭЧЫ

З восені 1916 г. да лютага 1917 г. Ядвігін Ш. і Багдановіч сустракаліся амаль штодня: у беларускай кнігарні, у "Беларускай хатцы", на вуліцах Менску. Наведаў Багдановіч і маёнтак Ядвігіна Ш. у Карпілаўцы, дзе летам 16-га месьціўся прытулак для дзяцей уцекачоў. Гэтая паездка адкрыла Максіму вялікую ахвярнасьць Ядвігіна Ш. Мог бы сядзець сабе ў фальварку, весьці гаспадарку і нябедна жыць. А ён кінуў-рынуў усё дзеля беларускай ідэі. Сям'ю сваю сьцясьніў і даў гаротным дзецям прытулак у сваёй хаце. А іх жа больш за трыццаць! Звычайна Максім пры сустрэчах зь Ядвігіным Ш. пачуваў сябе ніякавата, разгублена. І ня дзіва — Лявіцкі быў ці не найстарэйшы сярод менскіх беларускіх дзеячоў, меў вялікі жыцьцёвы і творчы досьвед. І яшчэ адно змушала Максіма пачувацца перад Ядвігіным Ш. ніякавата. Ён сябраваў зь ягонаю дачкой Вандай. Доўгі час яны між сабою ліставаліся. Але, калі сустрэліся, ня ўсё між імі пайшло гэтак гладка, як у тых лістах. Ядвігін Ш. ведаў пра Максімавы адносіны зь ягонаю Вандаю. Але выгляду не падаваў. "Самі разьбяруцца!" — думаў ён.

Новы, 1917 год яны сустракалі разам. Максім тады рупіўся пра чытанку для дзяцей. Гаварылі пра яе, пра тое, што хутка, можа, дачакаюцца беларускіх школ, і ўсім будзе шмат радаснай працы.

## ТОЛЬКІ Ў СЭРЦЫ ТРЫВОЖНЫМ ПАЧУЮ

1916 год. У менскай "Беларускай хатцы" сабралася творчая моладзь. Былі скокі, сьпевы, розныя забавы. На той вечарыне быў і Аркадзь Смоліч — паводле словаў Зоські Верас, найбліжэйшы Максімавы сябар. Багдановіч нават давяраў яму першаму чытаць ці паказваў свае новыя вершы. Вось і гэтым разам, калі вечарына ўвайшла ў азарт, Смоліч папрасіў усіх суцішыцца, супакоіцца, сесьці.

"Я хачу прачытаць новы верш, — сказаў ён. — Аўтар прасіў не называць яго імя..." І пачаў дэклямаваць:

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах,—
Успомню Вострую Браму Сьвятую
І ваякаў на грозных канях...

Пачалі гадаць, хто аўтар. Называлі імёны Гальяша Леўчыка, Алеся Гаруна, Якуба Коласа... І толькі адзін Ядвігін Ш. сказаў: "Гэта можа быць або Янка Купала, або наш Максім!". Ён заўжды зваў яго "наш Максім". У гэтым азначэньні — і цеплыня, і гонар за Максіма як паэта, павага і любоў да яго самога і ягонай паэзіі.

## МАКСІМ КРЫНІЦА

Калі зь Яраслава прыходзілі новыя вершы Багдановіча, у "Нашай Ніве" заўсёды было шмат гаманы. Аднаго разу Максім разам з уласнымі творамі прыслаў і колькі перакладаў зь Сьвятагора. На арыгінальных творах рэдактар "Нашай Нівы" Аляксандар Уласаў чамусь адразу напісаў: "У архіў". А на перакладах пазначыў: "Можна надрукаваць пад псэўданімам". Падрыхтаваць пераклады да друку і прыдумаць псэўданім перакладчыку даручылі Ядвігіну Ш.

"Кожны сваім псэўданімам вызначае сваё крэда, свой кірунак, — думаў Лявіцкі. — А што за душою гэтага юнака, ліцэіста, эстэта? Яму гэтыя Бядулі ды Гаруны не падыдуць. Яму трэба чысты-чысты псэўданім, ясны, як юнацтва. Хай будзе Крыніца! Гэта будзе псэўданім-падказка: з народных крыніц яму трэба чэрпаць свае вершы!" Задаволены сваімі развагамі, Ядвігін Ш. паставіў пад перакладамі псэўданім Максім Крыніца.

Багдановіч абурыўся на свавольства рэдакцыі. Хоць, папраўдзе, сам псэўданім яму спадабаўся. "У родным краі ёсьць крыніца", — напіша сам Максім у адным вершы. Але ён хацеў, каб думкі, словы, народжаныя ў ягонай душы, нават пераўвасобленыя празь пераклады, былі Багдановічавымі, а ня нейкага невядомага Крыніцы.

## БАГДАНОВІЧ ПРА ЯДВІГІНА Ш.

Максім Багдановіч пільна сачыў за творчым ростам беларускіх пісьменьнікаў. Так, пра Ядвігіна Ш. у лісьце ў рэдакцыю "Нашай Нівы" "З шасьцю гадамі, паночкі!", ён пісаў:

"... Зь Ядвігіна Ш. вырабіўся такі пісьменьнік, што ня можна яго ставіць ніжэй крупных прадстаўнікоў таго ж жанру ў іншых літаратурах: гляньце, напрыклад, на казкі Шчадрына або гэткія ж апавяданьні Горкага, на байкі Ляманьскага, — няўжо ж Ядвігін Ш. горшы ад іх? А калі і горшы, дык ці нашмат?"

Багдановіч нават перакладаў на ўкраінскую мову творы Ядвігіна Ш.: "Зарабляюць", "З бальнічнага жыцьця", "Падласы", "Рабы", "Вясельле", "Скакатушка", "Васількі", "Гадунец", "Чортава ласка", "Дачэсныя", "Ліст сабакі да рэдакцыі "Нашай Нівы", "Сіло", "Нагарода", "Сабачая служба". А Ядвігіна Ш. ня так проста і перакладаць. Трапіцца якое-небудзь ядвігінаўскае "праз лад" — "праз лад добры", "праз лад рупны", "праз лад гутарлівы" ці які "конь убоісты" — вось і думай, як гэта перадаць на іншай мове. Але затое запаміналася — раз і назаўсёды, і ўжо самому Максіму хацелася пры нагодзе пакарыстацца гэтымі слоўкамі. Дый стыль пісьма ў Ядвігіна Ш. быў лёгкі, гнуткі, па-беларуску зграбны і жывы.

## СТАНІСЛАВУ ЛЕМУ – 80

# Лем бурчыць

*Калісьці ён верыў, што пісьменьнік можа палепшыць сьвет...*

Лем бурчыць. І ўжо даўно. Усім, бачыце, ён незадаволены. Усё яму не падабаецца. Напрыклад — папулярная на Захадзе, а цяпер і ў Польшчы тэлеперадача *Big Brother*. Гэта так званае *reality show*, гульня-сэрыял, у часе якой звычайныя людзі некалькі тыдняў жывуць у спэцыяльна абсталяваным доме, дзе за імі ўвесь час назіраюць камэры — на кухні, у ложку, ванным пакоі... Кожны тыдзень, у выніку глядацкага галасаваньня, хтосьці выбывае з гульні. Апошні, найбольш упадабаны, робіцца пераможцам і атрымлівае буйны грашовы прыз.

Лем ніколі ня бачыў гэтай перадачы, толькі чытаў пра яе ў друку. Ён называе яе "вычварэньнем, хваравітай схільнасьцю падглядаць за іншымі людзьмі".

Анджэй Вайда і былы міністар замежных справаў Польшчы Браніслаў Гэрэмак запрашалі яго ў Варшаву — на канфэрэнцыю, прысьвечаную праблемам польскай культуры. Лем не паехаў: культуру трэба ратаваць не канфэрэнцыямі, а стварэньнем мастацтва высокага ўзроўню. Лем лічыць, што "*высокая культура скацілася ўніз, усё стала банальным, пляскатым, аднолькавым*".

Здаецца, яшчэ нядаўна, сьледам за аўтарам "Эдэму" і "Салярысу", мы верылі ў перамогу розуму. У апошняй кнізе Лема "Вокамгненьне" — страх перад *homo sapiens*. Зрэшты, сам Лем тлумачыць, што баіцца ня розуму, а хутчэй, чалавечага глупства. Выраз Шэксьпіра: "*Гора сьмяротным, якія апынуліся паміж мячоў гігантаў, што фэхтуюць*", — ён перайначвае на: "*Гора мудрым, што апынуліся сярод натоўпу ідыётаў*".

Магчыма, якраз такім — мудрым сярод ідыётаў — ён лічыць сябе апошнія гады. Таму так упарта адмаўляецца ад інтэрвію. Дый пытаюць усё пра адно й тое самае — пра біятэхналёгію, пра робатаў, космас і несьмяротнасьць. Лему ўсё гэта абрыдла. Ён лічыць, што ахайная хатняя гаспадыня абыдзецца ў дзесяць мільёнаў разоў таньней за любога робата і што дэмана тэхналёгіі, які вырваўся на волю, ужо не стрымаеш. Ён ня верыць у штучны інтэлект, да якога яшчэ мільёны гадоў, і ня ўмее карыстаецца кампутарам, а ў кабінэце Лема ганаровае месца займае старая друкарка.

Лем — прыхільнік памяркоўнага лібэралізму і пратэстуе супраць неабмежаванай свабоды. Ён нават за разумнае абмежаваньне прагрэсу. Асваеньне космасу, на яго думку, мае найперш вайсковае значэньне, і чалавеку няма чаго шукаць у космасе. А праблема несьмяротнасьці — гэта "*ўсё абяцанкі, якімі нас корміць прэса, колькі разоў урачыста абяцалі, што навука перамагла рак і чорт ведае што... А ўсё гэта нікуды не падзелася*".

Ужо 12 год Лем ня піша аповесьцяў, апавяданьняў, раманаў. Мяркуе, што ў галіне *science fiction* зрабіў усё, што мог. "Астранаўты", "Зорныя дзёньнікі", "Аповесьць пра пілёта Піркса", "Салярыс", "Эдэм", "Сума тэхналёгіяў"... 40 кніг, перакладзеных на 37 моваў. Паступова бэлетрыстыка саступала месца напружаным развагам. Лем-філёзаф адцясьняў Лема-празаіка. Прагрэсіўна-цывілізацыйныя надзеі саступалі месца яўнаму скептыцызму. Цяпер ён толькі эсэіст, якога можна чытаць у такіх выданьнях, як *Tygodnik Powszechny*, *Odra*, *Przekrój*.



У адной з апошніх гутарак пісьменьнік прызнаўся: "*Мае футуралягічныя чаканьні сутыкнуліся з рэчаіснасьцю*". Ён многае вельмі дакладна прадказаў у той самай "Суме тэхналёгіяў" (1961): і кланаваньне людзей, і віртуальную рэальнасьць, і разьвіцьцё біятэхналёгіяў.

Пясьняр будучай прыўкраснай тэхнагеннай цывілізацыі стаў горкім, скептычным камэнтатарам яе, калі яна прыйшла. Ён піша ў "Марнай засьцярозе": "*Калісьці я верыў, што пісьменьнік можа хоць бы крыху палепшыць наш сьвет, але цяпер ня веру ў гэта*".

**Сямён Букчын**

## Новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

**Анталёгія беларускай чароўнай казкі** / Укл.А.Цітавец. – Менск: Ураджай, 2001. – 407 с.: іл. – Наклад 2000 ас. ISBN 985-04-0207-5

*Выдавецтва "Ураджай" працягвае выдаваць анталёгіі. Гэтая каштуе 2 т. р.*

Н.Мацяш. **Багаславі сустрэчу мне**. Выбраная лірыка Плеяды. – Берасьце, 2001. – 166 с.

*У кнігу перакладаў Ніны Мацяш увайшлі творы францускіх паэтаў XVI ст.: Рансара, Дзюбэле, Бэрто, Бужэ, Жадэля ды інш. Кніга праляжала колькі год у выдавецтве "Мастацкая літаратура" й урэшце выйшла самвыдатам.*

**Друцак летапісны**. Друцкае эвангельле / Рэд.кал. У.Андрэйчанка ды інш.; Маст.У.Жук. – Менск: Беларуская энцыклапэдыя, 2001. – 288 с.: іл. – Наклад 500 ас. ISBN 985-11-0185-0

*У кнізе пра гісторыю Друцку ўпершыню зьмешчаная копія ўсяго тэксту Друцкага эвангельля XIV ст., арыгінал якога захоўваецца ў бібліятэцы Сібірскага аддзелу Расейскае акадэміі навук. Кніга каштуе 10 т. р.; першае выданьне выйшла ў 2000 г. з назовам "Друцак старажытны" (дагэтуль прадаецца за 2 т.р.)*

А.Надсан. **Друя й Грэка-каталіцкая царква на Беларусі (1924–1938)**. – Лёндан: Выд-ва "Божым шляхам", 2001. – 64 с.

*На грунце невядомых дагэтуль архіўных матэрыялаў разглядаецца роля Друйскага кляштару айцоў-марыянаў у справе адраджэньня грэка-каталіцкае царквы.*

А.Надсан. **Магдалена Радзівіл і Грэка-каталіцкая царква**. – Лёндан: Выд-ва "Божым шляхам", 2001. – 44 с.

*У кнігу ўвайшлі два артыкулы, у якіх разглядаюцца невядомыя моманты жыцьця княгіні Магдалены Радзівіл.*

А.Марціновіч. **Сімяон, сын Полацку**: Нарыс / Для малодшага школьнага веку; Маст.А.Кажаноўскі. – Менск: Юнацтва, 2001. – 110 с. – Наклад 3000 ас. ISBN 985-05-0286-Х

У.Сосна. **Фармаваньне саслоўна-групавога складу сялянства Беларусі ў канцы XVIII – першай палове XIX ст.** – Менск: Выд-ва БДУ, 2000. – 115 с. – Наклад 300 ас. ISBN 985-445-279-4

*У манаграфіі дасьледуецца палітыка царскіх уладаў ад падзелаў Рэчы Паспалітае да скасаваньня паншчыны. Разглядаюцца ўсе катэгорыі сялянаў (вольныя людзі, аднадворцы, жыды-аратаі).*

А.Подлипский. **Витебские адреса Марка Шагала**. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2000. – 56 с. – Наклад 500 ас.

*Аўтар апісвае памятныя мясьціны Віцебску, зьвязаныя з жыцьцём і творчасьцю Шагала. Выданьне аздобленае Шагалавымі віцебскімі замалёўкамі, фатаздымкамі гораду, мастака й ягонае сям'і ды калегаў.*

А.Подлипский. **Марк Шагал**. Основные даты жизни и творчества. – Віцебск: Віцебская абласная друкарня, 2000. – 64 с. – Наклад 500 ас.

*У кнізе сабраныя выказваньні Шагала, успаміны ягоных сяброў, калегаў, знаёмцаў, цытаты з газэтаў і часопісаў, архіўныя дакумэнты, фатаздымкі, што тычацца жыцьця і творчасьці мастака.*

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**

## Новы нумар "Спадчыны"




**У ім — успаміны пра Багушэвіча, нататкі Юркі Віцьбіча, артыкулы пра кафлю старога Полацку, барысаўскія разьвадныя масты, лошыцкую сядзібу.**

У наступных нумарах часопіс мяркуе друкаваць архівы беларускага замежжа, помнікі літаратуры, пераклады, дакумэнты, рэцэнзіі. "Спадчына" — вольная трыбуна ўсіх дасьледнікаў Беларусі.

Музыка

# Сантур ды цымбалы

**У пятніцу ў Філярмоніі адбыўся канцэрт індыйскай клясычнай музыкі.**

Публіка ў залі была экзатычная: індыйскія дыпляматы і бізнэсмэны, апранутыя па-эўрапейску, і іхныя жонкі ў каляровых індыйскіх сары, кітайскія студэнты, сьціплыя на выгляд менчукі — заўсёднікі аздараўляльных клюбаў, з жонкамі і дзецьмі, якія падчас канцэрту безупынна плакалі. Найпачэсныя месцы займалі беларускі ў сары — аматаркі індыйскай філязофіі, а першыя шэрагі партэру — дзяўчынкі-цымбалісткі з музычнай вучэльні, якім цікава было паслухаць заежджага маэстра. У фае бясплатна раздавалі індыйскія часопісы з карцінкамі ды фатаздымкамі.

Вяла імпрэзу музыказнаўца Алена Гарахавік, якая шчэ пры канцы 80-х абараніла кандыдацкую дысэртацыю па індыйскай клясычнай музыцы, а пазьней набыла працяглы стаж у Індыі.

Індыйскія музыкі выйшлі на сцэну босыя, у традыцыйных вопратках. Павіталіся з публікай і селі на падлогу. Пандыт Ульхас Бапам (пандыт – пачэсны тытул настаўніка ў індыйскай артыстычнай традыцыі) паклаў на калені сантур — індыйскія цымбалы, вырабленыя зь цёмнага дрэва, падобныя да нашых, але меншыя, з грубай дэкай і бяз ножак. Малады і прыгожы Ніцін Міта заняў месца ля табла — індыйскіх бубноў. Віная Бапат узяла тампуру — інструмэнт кшталту мандаліны, але з доўгім вытанчаным грыфам, — і распачалася музыка...


Ларыса Рыдлеўская

Пандыт Бапам зрабіў для сантура тое самае, што Язэп Жыновіч для беларускіх цымбалаў. Ён прыстасаваў гэты інструмэнт для выкананьня індыйскай клясычнай музыкі. Манерай ігры Ульхас Бапам нагадвае беларускіх прафэсійных цымбалістаў. Зрэшты, нічога дзіўнага — сантур трапіў у Індыю з Пэрсіі, адкуль паходзяць і беларускія цымбалы. Музычныя інструмэнты гэткага кшталту ёсьць у многіх народаў: пэрсыдзкі сантур, кітайскі ян-цынь, амэрыканскі дальсымэр, румынскі тамбал, альпійскі хакбрэт, грэцкія сантуры, вугорскія цымбалы... Можа, таму музыка Ульхаса Бапама выклікае цікавасьць на розных кантынэнтах. Пандыт аб'езьдзіў усю Паўночную Амэрыку, Брытанію, Кітай, Сярэдні Усход. У верасьні 2001 г. ён распачаў вялікае эўрапейскае турнэ, у рамках якога ўжо наведаў Швайцарыю, Нямеччыну і Беларусь, а цяперака выпраўляецца ў Хельсынкі.

У другім аддзяленьні на сцэну выйшла беларуская цымбалістка, заслужаная артыстка Беларусі Ларыса Рыдлеўская. Разам з індыйскімі музыкамі яна выканала п'есу Ульхаса Бапама "*Togetherness*" (суменасьць). Гук беларускіх цымбалаў выявіўся мякчэйшым, больш жаночым за гук індыйскага сантура. А потым інтэрнацыянальны квартэт супольна стварае індыйскую рагу на тэму беларускай полькі "Мікіта".

**Юлія Андрэева**



# Арлоў+Алексіевіч

**3 верасьня ў Магілёў прыяжджалі пісьменьнікі У.Арлоў і С.Алексіевіч. Кожны зь іх цікавы сам сабою, але ў суседзтве такіх кантрасных асобаў ёсьць ужо нешта знакавае: расейскамоўная складальніца пасьянсаў з чужых лёсаў і беларускамоўны дасьледчык інтымных дэталяў уласнай біяграфіі, флегматычная прадчувальніца глябальных зрухаў сучаснай цывілізацыі і тэмпэраментны нацыяналіст, па макаўку ўпаяны ў тутэйшую гісторыю.**

Каляжна-сацыялягічная творчасьць Алексіевіч удала ўпісваецца ў эўрапейскі кантэкст, гістарычныя ж інтэрпрэтацыі і апавяданьні Арлова занадта традыцыйныя для постіндустрыяльнай Эўропы, але актуальныя для тутэйшай грамады. Нават яго эсэ, вершы і аўтабіяграфічныя творы — здабытак чыста беларуская, а не касмапалітычнага кшталту. У пэўным сэнсе, Арлоў і Алексіевіч — гэта два полюсы сучаснага інтэлектуальнага жыцьця Беларусі, і зьяднаў іх спадар... Лукашэнка. Менавіта на глебе непрыняцьця сёньняшніх рэаліяў, спробе іх асэнсаваць (з боку Алексіевіч) або зьмяніць (з боку Арлова) і сышліся такія розныя творцы. Тым больш цікава назіраць іх сутыкненьне-супрацоўніцтва, што ў ім нараджаецца новае бачаньне беларускага лёсу, узьнікае яго стэрэаскапічная карціна — больш рэалістычная, аднак, чым палымяныя антыкамуністычныя плякаты ўзору 1991 г., рамантычныя нацыянальныя схемы 1994-га або славянска-праваслаўныя лубкі 1996 г. Пытаньні да Алексіевіч (Чым так прывабны сацыялізм? Што супала ў ім з нашай мэнтальнасьцю? Хто мы: эўрапейцы, славяне або "саўкі"?), як і адказы Арлова (мы найперш беларусы, чым славяне; больш эўрапейцы, чым азіяты; гістарычна хутчэй багатыя, чым бедныя) — усяго толькі адпраўны пункт для стварэньня беларускай канцэпцыі існаваньня, таго сплаву чорнага, белага і чырвонага (мінулага, будучага і сучаснага), які можна будзе назваць нацыянальнай ідэяй. Арлоў+Алексіевіч = ??? — гэта формула нашай пакуль няяснай пэрспэктывы, знак таго, што жыцьцё працягваецца.

**Васіль Аўраменка, Магілёў**





**АНОНС**

## Геалягічная экспэдыцыя ў Менск

"Пасьля таго як Саветы акупавалі Літву і зьліквідавалі Міністэрства замежных справаў, я застаўся беспрацоўным... Сьнежаньскай ноччу я прыехаў у Менск. Увайшоўшы ў вакзал, я зьдзівіўся, пабачыўшы, што на мармуровай падлозе ляжаць калгасьнікі ў сярмягах і паршнях. Асьцярожна пераступаючы ногі паміж людзьмі, я азірнуўся, мо дзе пабачу тэлефон. У Менску было чатыры гатэлі. На маё пытаньне паўсюль адказалі, што вольнага пакою ў іх няма".

**Мэмуары літоўскага дыплямата Повіласа Гечуса — у наступных нумарах "НН".**

Дзе варта быць

### Абарона "Пагоні"

**27 верасьня — суд над газэтай "Пагоня".** Паседжаньне пачнецца а 10-й у Гаспадарчым судзе — Менск, вул.Валадарскага, 8.

### Вечарына Гілевіча

**ТБМ запрашае на юбілейную вечарыну Ніла Гілевіча,** якая адбудзецца 4 кастрычніка а 18-й у тэатральнай залі менскага Чырвонага касьцёлу.

### Аблічча магнатаў

**У Нацыянальным музэі гісторыі і культуры да серады, 26 верасьня, ідзе выстава "Твары нашай гісторыі".** Да агляду выстаўленыя партрэты Вішнявецкіх, Радзівілаў, Завішаў, Лява Сапегі, Сьцяпана Батуры ды іншых пастацяў беларускае гісторыі. Гэта анонс беларуска-літоўскай выставы "Гістарычны партрэт ВКЛ XVI—XVIII ст.", якую пакуль зладзіць не ўдаецца.

### "Розачку падарыла!"

**27 верасьня аматары крэольскай культуры могуць схадзіць на канцэрт "Ляпіса Трубяцкога".** Імпрэза адбудзецца ў рэстарацыі "Белая вежа" (Варвашэні, 17), кошт квітка — 7 тыс. руб.

### Едзе міленькі Адам

**27, 28 верасьня ў Філярмоніі ізноў даюць монаопэру Алега Залётнева "Адзінокі птах"** пра жыцьцё й сьмерць Адама Міцкевіча ў выкананьні Дзяржаўнага сымфанічнага аркестру й капэлі "*Sonorus*". Пачатак а 19-й.

### Кіно і немцы

**У кінатэатры "Перамога" завяршаецца праграма нямецкага кіно. 24 верасьня пройдзе "Царква Сьв.Мікалая"** паводле раману Эрыха Леста (рэж. Ф.Баер), 25 верасьня — "Тарот", паводле раману Гётэ "Роднасьць душаў" (рэж. Р.Томэ). Пачатак а 19-й.

**Сьвятлана Курс, Дзяніс Носаў**

ВЯСКОВЫ ЛІРНІК

# Крыжы ў Вуглянах

**Напісаць пра гэта мяне падштурхнуў артыкул "Бясконцая кніга" пра кнігу Міхася Раманюка "Беларускія народныя крыжы" ("НН" ад 12 лютага 2001 г.).**

Мяне таксама вельмі цікавяць крыжы, асабліва абракальныя, і я заўсёды намагаўся высьветліць у мясцовых жыхароў, калі, дзеля чаго і зь якой нагоды яны пастаўленыя. Аб такіх крыжах, якія знаходзяцца ў вёсцы Вугляны Камянецкага раёну, я і хачу распавесьці.

Вёска гэтая месьціцца непадалёк ад Белавескай пушчы. Прытулілася яна на беразе ракі Лясной, у такім месцы, што далей дарог зь яе няма. Каб выехаць куды-небудзь, патрэбна вяртацца назад, у суседнюю вёску ці ў сам Камянец. Можа таму й завецца яна Вугляны.

У цэнтры вёскі, дзе скончваецца адзіная дарога, і месьцяцца тыя крыжы. Іх восем, яны розная вышыні і таўшчыні, стаяць гуртам, абнесеныя лёгкай мэталёвай агароджай. Адна з найстарэйшых жыхарак вёскі Ганна Кузько чула ад сваіх бацькоў, што самы першы крыж быў пастаўлены болей як сто гадоў таму. Вёску напаткала нейкая вялікая бяда, хвароба ці эпідэмія, мерла шмат людзей. Каб уратавацца, сяляне прывезьлі з пушчы малады дуб, зрабілі зь яго крыж, тройчы абнесьлі вакол вёскі ды ўкапалі там, дзе ён стаіць зараз. І, відаць, памагло — вёска захавалася й жыве да гэтага часу.



Іншыя сем крыжоў зьявіліся тут пасьля 1939 г., у часе калектывізацыі. Некаторыя сяляне на сваіх прыватных землях закопвалі невялікія крыжы, каб боскія сілы спрыялі ўраджаю, захоўвалі іх ад засухі і другой стыхіі. Калі калгас стаў абагульваць іхныя землі, сяляне крыжы перавезьлі ў вёску і паставілі побач зь першым, галоўным крыжам.

У канцы 50-х, у пэрыяд шалёнага хрушчоўскага атэізму, раённая ўлада вырашыла зьнішчыць крыжы. Аб гэтым стала вядома жонцы аднаго зь вясковых начальнікаў (яны абое ўжо памерлі), і яна папярэдзіла сялян, у якую ноч прыедуць зьнішчаць крыжы. Жанчыны сабраліся ў адной з бліжэйшых хат і прыкладна апоўначы адна зь іх, накрыўшыся белым прасьцірадлам, стала сярод крыжоў. Калі атэісты, пад'ехаўшы, убачылі там нешта ў белым, дык вельмі напалохаліся й сталі ўцякаць. У гэты момант з хаты выскачылі астатнія жанчыны й закідалі іх камянямі. Крыжы былі ўратаваныя і пасьля гэтага яшчэ некаторы час ахоўваліся.

Але раённыя бязбожнікі на гэтым не супакоіліся. Вытрымаўшы нейкі час, яны ў адну з начэй разламалі агароджу, сьпілавалі крыжы й вывезьлі іх у яму каля суседняй вёскі Мартынюкі. Мясцовыя людзі знайшлі іх і паведамілі ў Вугляны. Крыжы адразу ж забралі, закапалі на ранейшае месца, адрмантавалі агароджу, і стаяць яны там да гэтай пары.

Кожны год вясной сяляне сваімі сіламі і сродкамі фарбуюць крыжы й агароджу, на крыжах вывешваюць чыстыя ручнікі са стужкамі. Звычайна гэта робіцца перад Вялікаднем. Вось так і жывуць яны ў згодзе і ўзаемаразуменьні: жыхары берагуць крыжы, а тыя — пакой і жыцьцё вёскі. Мабыць, у гэтым і ёсьць сувязь нябеснага і зямнога.

**Пятро Гарбуноў, Берасьце**

# ЛАЗЬНЯ

## Лазьня

Уладзімер Лобач

У кожнай этнаграфічнай экспэдыцыі, дзе воляй лёсу зьяўляешся для студэнтаў ня толькі навуковым кіраўніком, але яшчэ і бацькам, мамкай ды масавікомзабаўляльнікам у адной асобе, "камандзірскі" клопат не абмяжоўваецца колькасьцю і якасьцю зафіксаванай фальклёрнай фактуры, а яшчэ палягае ў тым, каб палявы аддзел быў сыты, здаровы, маральна і фізычна чысты. Нягледзячы на вялізную колькасьць азёраў, апошняя задача не такая простая. Бо дзясяткі кілямэтраў пыльных ліпеньскіх дарог, што нітуюць дзясяткі такіх самых запыленых вёсачак, вымагаюць, хоць бы раз на тыдзень, гігіенічнай працэдуры ў максымальным тэрмальным рэжыме. Вымагаюць лазьні.

Той, хто думае, што вясковы тубылец толькі і марыць, каб даць нейкаму бадзягу (а тым больш — бадзягам) пахвастацца венічкам у сваёй лазьні — глыбока памыляецца. Пусьціць у лазьню — ня тое самае, што ў хату: лазьня адкрывае не фасад — спод усёй сялібы ды нутраныя рысы характару гаспадароў.

І калі вас не пусьцілі ў лазьню, значыцца, у нечым вы схібілі ці словам, ці ўчынкам. Плёскаючыся ў возеры, прааналізуйце свае памылкі ва ўзаемаадносінах зь мясцовымі і, мажліва, выправіўшы іх, праз тыдзень вы здолееце заняць запаветнае месьцейка на палку.

Вясковая лазьня — адмысловы ідэнтыфікатар "нармальнага" тутэйшага чалавека ў супрацьвагу гарадзкому прыхадню, турысту ці дачніку, якія мыюцца пад душам, а лазьню, як казаў дзед Янак з Глыбоччыны, "неналюбяць сільна". Аднак у выпадку з тымі студэнтамі-гараджанамі, што ўпершыню ў жыцьці аглядалі немудрагелісты інтэр'ер вясковай лазьні, як музэйную экспазыцыю "Каменны век на тэрыторыі Беларусі", алергенных праблемаў непрыманьня не ўзьнікала ніколі.

* * *

У традыцыйнай беларускай культуры лазьня была ня толькі месцам мыцьця, але й дзейсным каналам камунікацыі зь "іншасьветам". Будыніна, што нагадвала жылую хату (наяўнасьць сенцаў, печы, акенца) і заўсёды знаходзілася на пэрыфэрыі сялібы (у тым ліку, і з супрацьпажарных меркаваньняў), была своеасаблівай памежнай зонай, дзе з "гэтага" сьвету можна было зазірнуць у "той" і атрымаць адтуль вестку (гэтак дзеўкі на Каляды варажылі ў лазьні на ўласную долю).

Невыпадкова, што і нараджалі, прынамсі на Падзьвіньні, у лазьні, бо дзіця, якое зьяўлялася на сьвет без імя і адзежы (вызначальных прыкметаў культуры), разумелася як "чужаніца", "госьцічак" *адтуль*, якому яшчэ належала стаць Чалавекам.

Дый сыход чалавека, асабліва чараўніка ці моцнага знахара, такога, як Раман Кагут у Караткевічавых "Каласах", цесна зьвязаны зь месцам, дзе ён калісь зьявіўся на сьвет: "Прыходзіць такі час, і вядзьмак павінен залезьці ў падпечча, лепш за ўсё ў лазьні. І менавіта там аддаць д'яблу душу".

Лазьня была неад'емнай часткай большасьці абрадаў пераходнага тыпу (Каляды, Вялікдзень), дзе чалавек упоравень з Космасам дасягаў рытуальнае чысьціні, нарадзіўшыся наноў.

Нават стварэньне сьвету ў беларусаў апісваецца катэгорыямі лазьні: вада, агонь, печка-каменка, моцная пара: "Калісь яшчэ сьвет толькі зачынаўся, дык нічога нідзе не было. Усюды стаяла мёртвая *вада*, а пасярод вады тырчэў нібы *камень*, нібы што. Адзін раз Пярун як разыграўся і давай пыляць стрэламі ў гэты камень. Ад яго стрэлаў выскачылі тры яскаркі: белая, жоўтая і чырвоная. Упалі тыя яскаркі на ваду; з гэтага ўся вада скаламуцілася, і *сьвет памуціўся, як хмары*. Але па некаторым часе, як усё высьветлілася, дык адзначылася — дзе вада, дзе зямля".


IREX-PROMEDIA

Кожная лазьня мела свайго міталягічнага гаспадара-апекуна. Паводле М.Нікіфароўскага, вялікага знаўцы крыўскай паганскай традыцыі, "лазьнік больш злосны за іншых сялібных нячысьцікаў і трываць ня можа гультаёў, а тым больш — нясвоечасовых наведнікаў, якіх палохае ненатуральным храпам, шыпеньнем, паймённымі заклікамі, віскам і інш. Рогат пужае запозьненых у лазьні жанчынаў, вымушаных уцякаць голымі. Ад тупаньня Лазьніка не ўратавацца і тым, хто задумаў бы мыцца ў лазьні пасьля паўночы: у іх ён кідае сьмецьцем, нават камянямі, а пры вострым выпадку можа нават загубіць парушальніка спакою". Праўда, як сьведчыць Адам Багдановіч, ведаючы любоў Лазьніка да параньня і мыцьця, яго можна залагодзіць, пакінуўшы пасьля сябе венік і ваду з тым, каб і ён атрымаў звыклую асалоду.

* * *

Безумоўна, нельга зводзіць калясальную значнасьць лазьні толькі да ўзроўню этнаграфічна-фальклёрнага. Міталягема лазьні належным чынам папрацавала і ў нацыянальна-культурным будаўніцтве, хоць на яе практычна ніхто не зважаў.

Люд паспаліты больш вабяць рэчы кідкія, бліскучыя, кшталту крыжа Эўфрасіньні Полацкай, кароны Вітаўта ці дванаццаці залатых апосталаў радзівілаўскага Нясьвіжу, карацей — марноцьце, якое і ў лазьню ня возьмеш. Тады як сольлю жыцьця ёсьць зьявы простыя і нібыта звыклыя, як лазьня. Вось, да прыкладу, адвечныя спрэчкі вакол вытокаў беларускае нацыі: Палесьсе? Літва? Крыўя? Забыліся, забыліся, шаноўныя, на лазьню! Калі б узялі яе за доказ Ластоўскі ды Станкевіч, ніякія апанэнты супраць "Крывіцкай канцэпцыі" не брахалі б. Арэал расьсяленьня крывічоў амаль супадае з арэалам бытаваньня лазьні ў беларусаў. Міт пра стварэньне, што рэгулярна перажываўся ў лазьні ці то Брачыславам, ці то Ўсяславам Чарадзеем, выклікаў гэткія ж стваральныя ідэі.

У сымболіцы нацыянальнага Адраджэньня лазьня таксама знаходзіць сваё месца. Аповед "У лазьні" — пачатак Максіма Гарэцкага як Творцы. Сымбалічна, што твор гэты датаваны 31 сьнежня 1912 г. — Шчодрай Куцьцёй, апошняй кропкай паміж Старым і Новым годам. Для героя апавяданьня, выпускніка каморніцкай вучэльні Кліма Шамоўскага, лазьня не прадмет лірычнае настальгіі, наадварот — гэта своеасаблівы чысьцец, у якім летуценьні і сьветлыя памкненьні праваюцца далёка не ідэальнымі рэаліямі: "Вачам стала горка ад дыму. Нагам было ёдка стаяць на гразнай, сьцюдзёнай зямлі. Галава ўдарылася аб шост. Жарыня была наверсе як у пекле. Ня можна было нічога разглядзець". Пара выпетрывае ілюзіі. Дух лазьні праз цела гартуе душу. "Ляцела думка: "Мой родны край, люблю цябе бязь меры!" — і забавілася яна, не ўцякла". Ачышчэньне, што нясе лазьня, даецца цяжка, з болем сумневаў, супярэчнасьцяў, якія віруюць у галаве, але яно — падстава для стваральнага аптымізму ў Новым Годзе.

"— Ці не захварэла твая галава, Клім, пасьля лазьні? — спытаўся бацька.

— Палепшае, — адказаў сын".

* * *

Як бы ні карцела прыпісаць вынаходніцтва лазьні нашым продкам, дзеля справядлівасьці колькі словаў трэба сказаць і пра імпартовыя традыцыі.

Яшчэ ў Старажытнай Грэцыі лазьні былі звыклай зьявай. Яны былі часткай гімнасіяў (ад грэцк. *gymnos* — аголены), дзе эліны ўдасканальваліся фізычна й інтэлектуальна. Слугавалі лазьні чыста практычнай мэце — ачышчэньню цела пасьля фізычных практыкаваньняў ці працы. Купаньне ў гарачай вадзе лічылася шкодным, бо, на думку грэкаў, яно распавольвала цела, пазбаўляла яго моцы й трываласьці. Таму парную лазьню наведвалі пераважна людзі сталага веку, тады як моладзь гартавалася ў халадзёнцы. Асобныя — як прыватныя, так і дзяржаўныя — лазьні зьявіліся ў Атэнах ужо ў V-IV ст. да н.э. Аздабляліся й упрыгожваліся яны мінімальна, чаго ня скажаш пра славутыя рымскія тэрмы. Яны складаліся зь некалькіх аддзяленьняў: *palaestra* (спартовая заля), *apodyterium* (гардэроб), *caldarium* (гарачая лазьня), *tepidarium* (цёплая лазьня), *frigidarium* (халодная лазьня), *natio* (басэйн) і *sudaterium* (парылка). Апрача гэтага, у тэрмах былі пакоі для масажу, буфэты і нават бібліятэкі.

Самымі шыкоўнымі лічыліся імпэратарскія лазьні ў Рыме. Кожны валадар імкнуўся перасягнуць папярэдніка, будуючы замест лазьняў сапраўдныя палацы з мазаікай, росьпісамі ды скульптурамі найлепшых майстроў.

Распачаў гэтае спаборніцтва ў I ст. да н.э. Марк Віспан Агрыпа, другая асоба ў Імпэрыі часоў Аўгуста. За тэрмамі Агрыпы зьявіліся тэрмы Гэрона на Марсавым полі, тэрмы Даміцыяна на Авэнтыйскім пагорку, тэрмы Траяна, Дыяклетыяна, Канстанціна... Плошча ўсіх тэрмаў Рыму разам перавышала 11 гектараў!

Чым далей ад суворай сьціпласьці і практычнай мэтазгоднасьці ў бок неабмежаванай раскошы зьмяняўся выгляд тэрмаў, тым глыбей у бязладзьдзе палітычнага хаосу падала Імпэрыя. Гэтую акалічнасьць адцеміў Сэнэка, які захапляўся пабытовай непераборлівасьцю даўніх герояў, што ўзьвялі Рым на вяршыню ягонай славы. Так, наведаўшы ў Літэрне вясковы маёнтак Сцыпіёна Афрыканскага, ён апісвае лазьню славутага палкаводца: "Бачыў і лазенку, цесную і цёмную па завядзёнцы старадаўніх, бо нашым продкам здавалася, што няма цяпла бязь цемрадзі. Але, сьвятыя Багі, як прыемна ўвайсьці ў гэтую цёмную лазьню пад простым дахам!"

Але і грэцкім, і рымскім лазьням не ставала нардычнага экстрыму, якім быў уражаны апостал Андрэй у часе сваіх бадзяньняў паміж Полацкам і Ноўгарадам. Вярнуўшыся ў Рым, Андрэй наводзіў жах на рымлянаў аповедам пра крывіцкую лазьню: "Бачыў лазьні драўляныя, і распаляць іх да чырвані, і распрануцца, і голыя будуць, і аблюцца квасам..., і ледзьве вылезуць, паўжывыя, аблюцца вадой сьцюдзёнай, і толькі так аджывающь. І твораць гэта штодня, нікім не катаваныя, але самі сябе катуюць, і гэткім чынам мыюць сябе, а не катуюць".

А ў "Гісторыі Лівоніі" Дзіянісія Фабрыцыюса XIII ст. расказваецца пра тое, як папскі пасол, накіраваны ў Ніжняе Падзьвіньне, угледзеў у мясцовым кляштары працэс "ўтаймаваньня цела" з дапамогай венікаў, пары і халоднай вады. Нунцый гэтак расчуліўся, што склаў у Рым цыдулку пра духоўны подзьвіг тутэйшых манахаў, а ўсьцешаны Папа адшпіліў неслабы грант на ўтрыманьне кляштару. Ня дзіўна, што і хрысьціянскае пекла мае выгляд лазьні, толькі зь невыносным тэрмальным рэжымам і смуродам серы замест водару бярозавага ці дубовага лісьця, настоенага на квасе або піве.

У лазьні няма супрацьпастаўленьня цела й душы. І нават простая вясковая кабета ведае пра гэтую акалічнасьць. "Папарышся, костачкі пагрээш свае, мо й на душы палягчэе крыху табе. Ідзі, ідзі, сынок", — выпраўляе ў лазьню Кліма Шымаоўскага маці.

* * *

Беларуская лазьневая традыцыя адрозьніваецца ад расейскай. Скрайнасьць маскоўскай памывачнай працэдуры — п'янка. Народны ўзровень гэтай традыцыі на ўсю краіну рэклямуе Міша Еўдакімаў — з "*красной-красной мордой*", у якога пасьля бані пад "раздачу" трапляе ўся вёска. "Інтэлігенцкі" ўзровень — паказаў Э.Разанаў у фільме "*С легким паром*". Герой разам зь сябрамі напярэдадні Новага году "даганяецца" ў лазьні гарэлкай зь півам да поўнае згубы самакантролю і памяці.

Зрэшты, ляд зь імі ўсімі. Кожны выбірае камфорт па сваім гусьце. І хай сабе нехта ідзе ў баню, я ж, прычакаўшы суботы, вытаплю простую вясковую лазеньку. Бо пасьля лазьні сьпявае цела, а душа пасьміхаецца Небу. І Неба пасьміхаецца ў адказ.

# Сабачыя гісторыі

Адзін сабака трапіў на вясельле. Якраз жаніўся Граждан. І калі сабака павіншаваў маладых, Граждан выклікаў міліцыянтаў і сказаў: "*С юридической точки зрения ни организаторы праздника, ни городские власти в трагедии не виноваты, поэтому на них может быть возложена разве что моральная ответственность.* Я жанюся на Маньцы, а вы як сабе хочыце..."

Адзін сабака служыў у савецкім марфлёце. Вярнуўся ў вёску. Дзяўчаты праходу не даюць — бяры замуж! Граждан даведаўся пра гэта і, зьбіўшы з дошак скрынку, цэлымі днямі стаў плаваць па сажалцы. Людзі спыняюцца, дзівяцца, а Граждан у скрынцы сядзіць і крычыць: "*Никто не заставлял меня снимать свою кандидатуру! Более того, если бы это давление было, я не стал бы снимать кандидатуру, даже достоверно зная о том, что у меня нет шансов на победу. Я бы все равно пошел до конца!*"


REUTERS

Адзін сабака зьезьдзіў у замежжа. Вярнуўся дамоў, стаў далей жыць, як і жыў. І толькі Граждан па начах пачаў грукаць малатком у сьцяну і крычаць: "Перастаньце ізьдзявацца — піць кофа і есьці цукеркі!.."

**Віктар Шніп**

Адзін сабака ішоў па вакзале. Падышла Гражданка і кажа: "Дай лапу, пагадаю!"

Адна Гражданка танчыла з сабакам. Убачыў гэта Граждан і забіў абаіх.

Адзін сабака прачытаў сабачую гісторыю і падумаў, што гэта пра яго.

**Арцём Арашонак, Віцебск**

Адзін сабака купіў партрэт прэзыдэнта, а Граждан яму кажа: "А ты ўжо еў".

**Раман Мацылевіч, Ліда**

Адзін Сабака вельмі любіў інаўгуравацца ў Граждана. І набыў сабе пабытовы мэханічны інаўгуратар.

**Зьміцер Маркушэўскі, Менск**

## Dog in love

Завітаў сабака да Гражданкі, а там Граждан бліны есьць і безапэляцыйна сьцьвярджае: "На лыжах ходзяць усе!"

Гражданка адкусіла сабаку вуха й пяшчотна папрасіла: "Памагі мне разабрацца ў сабе".

На дзень народзінаў сабака атрымаў паштоўку: "Жэлаем вашым губкам цалавацца. Граждан і Гражданка".

Адна Гражданка разьвіталася з сабакам. Паскудам ён быў ладным, знаеце.

**Сяргей Балахонаў, Гомель**



**Шаноўнаму НІЛУ ГІЛЕВІЧУ ад маскоўскіх беларусаў-скарынаўцаў:**

*Скрозь Беларус прарочыць Сьвету,*
*Пятлёй глумца ня здушан ледзь,*
*Пакуль грукоча глас Паэты, —*
*"Зямлі бацькоў не анямець!"*

**Трывайце і тварыце, Высокі-Непахісны наш Беларусіне! Верым у Вас і Родны Край.**

***Алеся Бабарэка, Аляксей Каўка, Валянціна Шчадрына, Іван Бурсаў, Алесь Кажадуб, Генадзь Лех, Таіса Мішчанка, Антон Сабалеўскі, Міхал Шкялёнак, Аляксандар Улашчык ды іншыя.***

Водгук

## Кланаваныя сіроты

**Прачытаў у №33 "НН" пра кланаваньне людзей — даўно я так не зьдзіўляўся. Няўжо нехта сур'ёзна лічыць, што клон чалавека будзе абсалютнай копіяй гэтага чалавека, якая будзе рабіць тое самае, што і папярэднік? Кланаваць Касьцюшку, бо "ягоная справа ня скончаная"? Гэта было б, вядома, добра, бо мы б тады кланавалі Калюмба, ён бы адкрыў яшчэ адну Амэрыку, мы б там пасяліліся воддаль Лукашэнкі з Расеяй ды стваралі б там такую Беларусь, якую хочам...**

Як можна лічыць кланаваньне замахам на індывідуальнасьць? Чалавек і ягоны клон будуць розьніцца, як браты-блізьняты, у якіх таксама гены аднолькавыя. Але ж ніхто ня кажа, што нараджаць блізьнятаў — "злачынства супраць чалавецтва".

Самае дрэннае ў кланаваньні тое, што кланаваныя людзі будуць сіротамі. Таму, пакуль сям'я будзе лепш выхоўваць дзяцей, чым дзіцячы дом, кланаваньне шырока не распаўсюдзіцца. Людзі і безь яго пасьпяхова размнажаюцца. Вырошчваць органы для трансплянтацыі напэўна будуць, але не кланаваньнем цэлага чалавека. Каб уставіць новае вока замест выбітага, ніхто ня будзе ствараць кланаванага чалавека — дастаткова вырасьціць адно толькі вока.

І яшчэ мяне ўражвае Аляксандар Патупа: "Нас ад шымпанзэ розьніць 1,5% храмасомнага складу; а калі зьмяніць яшчэ 1,5%, мы атрымаем супэрсапіенс, або гіпэрмэнтальнасьць"! На гены якой істоты прапануе шаноўны Патупа зьмяніць гэтыя 1,5%? Каб зрабіць звышчалавека, трэба гэтыя 1,5% стварыць, а навука дагэтуль не стварыла ніводнага больш-менш прыстойнага гена, а толькі шукала ў прыродзе гатовыя, а розьніца тут такая ж, як паміж глядзець на "Джаконду" і самому намаляваць яе.

**Сяржук Карбоўскі, Менск**

*Супрацоўнікі газэты "НАША НІВА" віншуюць Дзіну Русіну з нараджэньнем унука. Хай расьце здаровенькім і шчасьлівенькім!*



Скрыні 220037 а/с 49 і 220116 а/с 123 **Арганізацыі "Край"** ня **дзейнічаюць**. Просім зьвязвацца праз электронную пошту spa_kraj@hotmail.com



*У буквары найперш павінны стаяць імёны нашых падзьвіжнікаў: Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Ларысы Геніюш*




**На выхад "Нашай Нівы" ахвяравалі: Беларускае Аб'яднаньне ў Заходняй Аўстраліі і асабіста беларусы з Пэрту Марыя Мароз, Міхась Раецкі-старэйшы, д-р Бразоўскі.**





## Прыватныя абвесткі

### віtаньні

**Стасю й Юрася Губарэвічаў** віншуем зь вясельлем. Зычым добрай долі й моцнай волі. Рух Добрай Волі

**Віншуем Галю Кацуру** з Днём нараджэньня. Шчасьця табе, і будзь заўсёды здаровай. Андрэй і Алёна

**Віншую Аляксандра Лукашэнку** зь перамогай на выбарах. Сн-пэр

### вокны, дзьверы

**Філёнчатыя дзьверы**, драўляныя вокны са шклопакетам. Вырабляем, ставім, гарантуем якасьць. Т.: 247-98-31

### для дзетак

**Запрашаем дзетак 4–6 гадоў** у гурткі раньняга разьвіцьця і падрыхтоўкі да школы. Т.: 213-43-52 (з 11-й да 19-й), 228-68-91, 260-28-13 (пасьля 20-й)

### ідэі

**Пакутаваць стаміўся** родны край. Князь Вітаўт, дзе ты ёсьць? Дапамагай! Беларусы-ліцьвіны

**Паўла!** Калі ты чытаеш "НН", то, напэўна, разумееш, якая ў мяне жыцьцёвая пазыцыя. Жадаеш пазнаёміцца са мной бліжэй? Пішы: 220028, Менск, а/с 114

**Памятай** імя сваё!!!

**Staradaŭniaj Litoŭskaj Pahoni** nie raźbić, nie spynić, nie strymać! Žyvie VKL! БЗЛТ

**"Наша Ніва"** – самая беларуская зь беларускіх, самая аб'ектыўная зь незалежных. Чаму б Вам не выходзіць 2 разы на тыдзень? Андрэй Вольны

**Як там будзе "Наша Ніва"** па-арабску? Гляджу – пара ўжо перайменавацца. Ваш Бэн Лядэн з "Байцоўскага клюбу"

**Трэба рабіць** другі тур прэзыдэнцкіх выбараў, вынікі галасаваньня другія. Пічкоўскі Яўген

**Ці хто яшчэ** не ўсьвядоміў небясьпечнасьць *усялякіх* гульняў з Масквой?

**Трэба дамагацца** паўторных выбараў з сапраўднымі беларускімі кандыдатамі

**"Аб'яднаныя"** сваімі бангалорамі ды падачкамі выхавалі генэрацыю няздольных да змаганьня людзей, а цяпер лямантуюць

**Прапаную камяні** для АКВ, інфармацыю аб працы за мяжой, дапамагу хутка вывучыць эспэранта. Праца ў хаце. Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: а/с 9, 246008, Гомель-8

**Дапамагу пачаць справу** ў хаце (не распаўсюджваньне!). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

**Прапаную рэцэпты кактэйляў**, пуншаў, глінтвэйнаў, грогаў, крушонаў. А/с 9, Гомель-8

**Амэрыка!** Хваля тэрору не абмінула і цябе. Ведай, што ў гэтую цяжкую гадзіну табе спачуваюць усе беларусы! Андрэй Вольны

### кампутар

**Кампутар прадаецца** Pentium 166 MMX; RAM 64MB; (HDD)2,6 ГБ; г/карта, калёнкі; манітор GoldStar 15 (лічбавы); клявіятура, мыша. Т.: 215-15-58

### кнігі, музыка

**Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына"** выдала навукова-папулярную кнігу "Гістарычны шлях беларускай нацыі і дзяржавы" на беларускай і ангельскай мовах. Кніга ахоплівае час ад Полацкага княства да сучаснасьці. У выданьні прадстаўленыя разьдзелы: Нацыя, Дзяржаўнасьць, Культура, Беларусь на мяжы тысячагодзьдзяў. Паралельна з гісторыяй Беларусі разглядаецца фармаваньне беларускай дыяспары. Выданьне ілюстраванае фатаздымкамі, гравюрамі, мапамі і схемамі. Засталося 500 асобнікаў. Каб набыць, зьвяртайцеся праз т.: 220-70-27.

**Куплю "Сьцяну"** і "Пахаджанаў" В.Быкава. Хто мае – прадайце, не шкадуйце. Т.: (у Петрыкаве): (02350) 2-16-84

**Набуду кнігу** А.Смаленчука "Палякі Беларусі і Літвы ў рэвалюцыі 1905—1907 г". Т.: (017) 211-93-29 (увечары)

**Набуду добры** расейска-беларускі слоўнік (нядорага). Пэйдж.: 211-00-00, аб.206087

**CD "Я нарадзіўся тут"**, "Легенды Вялікага Княства" і інш. Можна набыць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**"Глядыятар"** ужо ў Гомелі! Набывайце! Т.: 45-11-51 (штодня)

**Кнігі: С.Адамовіч "Турэмны дзёньнік"**, М.Сьцюарт "Людвік і зорны конь" і інш. Ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

**"Гісторыя цацак"**, "Маленькі Сьцюарт", "Русалачка" і інш. Ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51 (штодня)

### здымем кватэру

**Маладая сям'я здыме аднапакаёўку** ў Менску. Гарантуем парадак, магчымая перадаплата. Тэл. 262-07-70 (х), 263-47-95, 223-31-07

**НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

## Жарт



ЯЎГЕН ЦАРКОЎ

**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
засна́ваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| карэктар | Надзея Бракар |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| нам. галоўнага рэдактара | Сьвятлана Курс |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**


Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты "Известия", д. 8, кв. 173.
Наклад 5698.
Нумар падпісаны ў друк 23.09.2001.
Замова № 5480.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а